PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 18 (2242) Год XLIV Беласток 2 мая 1999 г. Цана 1,20 зл.

## З'ядуць нас

**Пра сітуацыю меншасцей у Падляшскім ваяводстве расказвае „Ніве" радны Ваяводскага сейміка д-р Ян ЗЕНЮК.**

Ад пэўнага часу заўважаецца ў нашым ваяводстве ігнараванне нацыянальных і рэлігійных меншасцей. Ужо год таму звярнуў я на гэта ўвагу ў адкрытым лісце прэм'ер-міністру Ежы Бузку. На гэту тэму былі і другія выступленні, м.інш. рэд. Мазярскага ў „Gazecie Wyborczej". Праблемы меншасцей у Падляшскім ваяводстве пашырыліся ў сувязі з далучэннем часткі даўняга Сувальскага ваяводства, дзе пражываюць літоўцы, аднак ваяводскія ўлады не бачаць патрэбы падтрымліваць меншасныя асяродкі, якія складаюць каля чвэрці насельніцтва ваяводства.

На адным з ваяводскіх сеймікаў Яўген Чыквін выступіў з прапановай стварыць камісію па справах нацыянальных меншасцей. Аднак зараз жа выступіў віцэ-маршалак А. Усакевіч з заявай, што няма такой патрэбы, бо ўсе справы меншасцей вырашаюцца ў іншых дзеючых камісіях. Я адказаў на гэта, што дзе кухарак шэсць, там няма чаго есці, бо ў другіх камісіях нашы справы расплывуцца. У галасаванні над прапановай Яўгена Чыквіна ўсе радныя ад АВС і частка радных ад ПСЛ выказаліся супраць. Гэта быў першы ўдар па нас.

Звярнуліся мы з запытаннем да маршалка ваяводства Славаміра Згжывы, як ён будзе ўлічваць нацыянальна-канфесійную структуру ваяводства. Маршалак адказаў, што сур'ёзна ўглыбіцца ў гэтую праблему, бо дагэтуль не меў з ёю дачынення. З таго часу маршалак Згжыва і словам не заікнуўся пра нацыянальна-канфесійныя праблемы. У нас склалася ўражанне, што так будзе далей, бо калі падчас выбарчай кампаніі блок левых і незалежных гаварыў аб патрэбах меншасцей, блок правых групіровак падкрэсліваў хрысціянскія вартасці і латынізацыю ўсходу.

Прэм'ер-міністр прызначыў сродкі на адбудову Супрасльскай лаўры, бо мы выступілі за такія сродкі, але прызначыў таксама столькі ж і на касцёл у Харошчы, хаця яны гэтага не прасілі.

Мы ставілі пытанне, чаму подзвігі і злачынствы ў час другой сусветнай вайны мераюцца рознымі меркамі? Чаму ваявода не дае згоды на ўзвядзенне помніка і мемарыяльнай дошкі? Высветлілася, што ваявода дасць згоду, але толькі тады, калі мемарыяльная дошка будзе ляжаць — каб была непрыкметнай — і калі не будзе там напісана, што злачынствы ўчынены польскім падполлем. А гэта — прыкрыванне даказанай гістарычнай праўды! Людзі абураны такою пастаноўкай справы і мы звярнуліся да цэнтральных уладаў. Размова з віцэ-міністрам унутраных спраў і адміністрацыі таксама схілялася да таго,

[працяг ☞ 4]

## Бог вёў мяне рознымі дарогамі

**Айцец Рыгор САСНА, настаяцель прыхода ў Рыбалах, вядомы як даследчык мінуўшчыны праваслаўя на Беласточчыне. Ён — аўтар шматлікіх кніжак і артыкулаў па гісторыі Царквы і беларускага народа на нашай зямлі. Цяпер адзначае ён падвойны юбілей — шасцідзесяцігоддзе з дня нараджэння і трыццацігоддзе навуковай дзейнасці. Свой юбілей адзначае таксама рыбалаўская царква. Сёлета мінае 120 гадавіна яе заснавання. Размову з айцом Рыгорам Сасной правялі мы напярэдадні святкавання юбілею царквы і яе настаяцеля, запланаванага на 30 красавіка.**



***— Калі б сёння, маючы вопыт 60-гадовага чалавека, мелі Вы магчымасць выбраць сваю жыццёвую дарогу, ці памянялі б Вы нешта ў сваіх ранейшых рашэннях, ці пайшлі б гэтым самым шляхам?***

— Шэсцьдзесят гадоў гэта сапраўды шмат часу, каб набыць нейкі вопыт. Але калі б прыйшлося пачынаць усё ад пачатку, думаю, другой дарогі я не выбраў бы. Я сваю жыццёвую дарогу добра ведаю і на кожным кроку бачу Божае блаславленне для ўсіх маіх дзеянняў. Нічога не дзеецца без волі Бога. Калі б я разлічваў толькі на сябе, не змог бы нічога зрабіць. Не раз быў я блізкі роспачы. Бог вёў мяне рознымі дарогамі. Тое, што я стаў святаром, лічу Божым блаславленнем і праявай Яго вялікай ласкі.

Маё дзяцінства прайшло ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Выхоўвала мяне маці адна. У школу прыйшлося мне ісці зараз пасля вайны. Дзіўныя гэта былі школы. Сяляне наймалі настаўніка, якому плацілі збожжам. У такой школе я закончыў два класы. Пасля два гады вучыўся яшчэ ў школе ў суседняй вёсцы. У Орлі закончыў я пачатковую адукацыю і дзякуючы ветлівасці добрых людзей атрымаў магчымасць вучыцца ў ліцэі. Я нават не выбіраў новага месца навукі, бо для мяне было зусім зразумелым, што мушу вучыцца ў „сваёй школе". А „сваёй школай" называлі тады бельскі беларускі ліцэй. У ліцэі я вучыўся чатыры гады. Дырэктарам гэтай установы быў у той час Яраслаў Кастыцэвіч, якога я лічыў не толькі настаўнікам, але таксама духоўным апекуном. Ён перадаў нам сваю адданасць Царкве. Мы сталі тады смялей хадзіць у царкву, да споведзі. Настаў 1956 год і адмененая атмасфера ў школе і аўтарытэт Яраслава Кастыцэвіча паспрыялі таму, што я рашыўся працягваць навуку ў духоўнай семінарыі. Гэта быў уваход на дарогу, з якой я ўжо ніколі не думаў зыходзіць.

***— Але Вы паставілі сабе ў сваім жыцці і іншыя мэты чым толькі святарская служба Царкве.***

— Я ўжо сказаў, што ва ўсім праяўляецца воля Божая. Калі я прыйшоў вучыцца ў семінарыю, меў за сабою матуру. Большасць слухачоў гэтай установы мела закончаную толькі пачатковую школу. Мая навука абмежавалася толькі да тэалагічных прадметаў. За два гады здаў я экзамены, якія абавязвалі ў трэцім класе, а ў чацвёртым атрымаў магчымасць паступіць у Духоўную акадэмію. Будучы студэнтам акадэміі я ажаніўся, стаў святаром і пачаў працаваць на поўдні Польшчы. Маёй марай было, аднак, вучыцца далей. Праца ў Пярэмышлі моцна гэта ўскладняла, а прытым трапіў я ў непрыемную сітуацыю. Улады імкнуліся пазбыцца з парафіі мясцовага ўкраінскага святара за нацыянальную дзейнасць. Хаця я і стараўся трымацца здалёк ад гэтага канфлікту, аднак было неяк там няёмка. Царкоўныя ула-

[працяг ☞ 3]

## На прадвесні ў Ялоўцы

Маё падарожжа ў Ялоўку атрымалася дзень да Праваднай нядзелі. Айца Яўгена Канаховіча сустракаю на мясцовым могільніку. Пасля асвячэння магілы, святар успамінае шчырымі словамі памерлага: — Добры чалавек быў, сумленны, дзелавы, — кажа сваякам пра пакойнага.

[рэпартаж ⇨ 3]

## Галубы, марожанае і дубінкі

Жывое першамайскае шэсце ўбачыў я ў 1986 годзе ў Варшаве. Мне, як студэнту першага курса, у сталіцы ўсё тады было цікава. На афіцыйны мітынг працоўных на чале з першым сакратаром генералам Ярузельскім мы з сябрам не прабіліся праз міліцэйскія загароджы вакол плошчы ля Магілы невядомаму жаўнеру.

[колішнія першамаі ⇨ 4]

## Беларускае асветнае таварыства

Планаў у членаў БАТ шмат. У бліжэйшы час яны збіраюцца рэалізаваць праграму: „Беласток — мой горад". У рамках яе ў ліпені будуць арганізаваны гарадскія лагеры для ўсіх жадаючых вучняў. Дзеці будуць у гэты час знаёміцца са сваім горадам і яго ваколіцамі, наведваць культурныя ўстановы. Возьмуць яны таксама ўдзел у беларускіх мерапрыемствах.

[чарговая арганізацыя ⇨ 8]

## Мінчане — на вядучых месцах

Пары з Мінска прадстаўлялі тамашні клуб „Піруэт", які вядуць Міхаіл і Таццяна Паўлінавы. Супрацоўніцтва беластоцкага клуба „Рытм" з мінскім клубам бальнага танца „Піруэт" пачалося ў 80-х гадах. У папярэднія гады пары з Беластока выступалі ў Мінску. У мінулым годзе, у кастрычніку выступалі таксама ў Каўнасе, старой літоўскай сталіцы.

[міжнародны турнір ⇨ 9]

## Юр'ева раса

Так, як і па многіх святах, так і па Юр'і прадбачвалі надвор'е і стараліся дапасаваць да яго свае гаспадарчыя справы, каб мець як найбагацейшы ўраджай і найменшыя страты. Нездарма ж засталіся розныя прыказкі і прымаўкі, якія былі селяніну свайго роду кодэксам, перасцярогамі-парадамі. І так: „Юр'ева раса, не трэба каню аўса", „Юр'е з расою, Мікола з сяўбою"...

[абраднасць ⇨ 10]

# Беларусь — беларусы

## Беларуская нацыянальная ідэя і савецкая рэальнасць

**У днях 17-18 красавіка Каардынацыйны камітэт „Гродзенская ініцыятыва” ладзіў канферэнцыю, прысвечаную беларускай нацыянальнай ідэі. Згаданую арганізацыю ўзначальвае былы гродзенскі ваявода Сямён Домаш, а сярод арганізатараў канферэнцыі заўважыў я таксама былога мэра горада Алеся Мілінкевіча, прафесара Алеся Астроўскага і Фелікса Гавіна. Гэты апошні ў прыватнасці з'яўляецца сынам выдатнага дзеяча польскай меншасці ў Беларусі Тадэвуша Гавіна.**

**Канферэнцыя на вакзале**

Канферэнцыя пра беларускую нацыянальную ідэю, па зразумелых прычынах, не магла атрымаць бласлаўлення ўлад. Таму арганізатары не маглі знайсці адпаведнай залы для васьмідзесяці яе ўдзельнікаў. Усё адбывалася амаль у канспірацыйных умовах. Вучоныя, грамадскія і палітычныя дзеячы, якія з'ехаліся з амаль усяе Беларусі, сабраліся ў памяшканні Аб'яднання „Ратуша”. Пасля ўсе адправіліся на чыгуначны вакзал, дзе ў рэстаране і адбылася канферэнцыя. Пакуль што Лукашэнка не выдаў указ, які забараняў бы ўваход у рэстараны сваім апанентам.

Арганізатары запрасілі да дыскусіі на тэму нацыянальнай ідэі спецыялістаў розных галін навукі — філосафаў, біёлагаў, фізікаў, гісторыкаў, прадстаўнікоў політэхнічных навук. Гэта ва ўмовах сучаснай Беларусі мае глыбокі сэнс. Інтэлігенцыя, так як калісь у Польшчы перыяду ваеннага становішча, мае спрыяльныя ўмовы для роздумаў. Апрача мышлення не надта можна цяпер у Беларусі нешта рабіць. Калі нехта не праяўляе вынікаў сваіх роздумаў вонкаваму свету, можа нават жыць цалкам спакойна, ніхто яго не чапае. Памылкай арганізатараў канферэнцыі лічу прысвечанне большасці часу загадзя падрыхтаваным рэфератам. Некаторыя выступленні проста прасіліся палемікі ці паяснення. Калі пра гісторыю гавораць біёлагі ці фізікі, часта ў іх выступленнях больш ідэалагічнага падыходу чым фактаграфіі. З другога боку, аднак, калі людзі розных дысцыплін навукі шукаюць апраўдання сваіх думак аб сучаснасці ў гісторыі, можна гэта ўспрымаць толькі станоўча. Праблема грамадзян Беларусі заключаецца толькі ў тым, што пераважную большасць грамадства вучылі не гісторыі, але нейкай прыдуманай бальшавікамі міфалогіі пра мінулае.

**Пра панславізм і берасцейскую унію**

Адкрываючы канферэнцыю Сямён Домаш заявіў, што Беларусь стала ахвярай шавіністычнага напору чужой нацыянальнай ідэалогіі пад лозунгамі панславізму. Беларусы пераўтвараюцца сёння ў меншасць у сваёй краіне. Уладзімір Конан, філосаф з Менска, заўважыў, што імперыялісты культурны характар падпарадкаваных земель мяняюць не толькі метадам этнічнага генацыду, але робяць гэта таксама мірным шляхам. Такі працэс праходзіць цяпер у Беларусі. Згодна з логікай імперыі нацыянальная беларуская мова пераўтвараецца ў рэгіянальны дыялект. Для гэтага дастаткова паставіць на адпаведным месцы нейкага Сашку са Шклова і даць яму адпаведныя ўказанні. Шмат гаварылася і пра тое, як у Польшчы ліквідаваліся ўсе прывіды камунізму. На жаль, не было нагоды растлумачыць, што гэта яшчэ адзін міф, які гэтым разам стварыла антырэжымная прапаганда ў Беларусі.

Часта падчас выступленняў вярталася праблема берасцейскай уніі. Большасць вучоных і палітычных дзеячаў Беларусі лічыць, што была яна вынікам унутраных патрэб беларускага грамадства Вялікага княства Літоўскага, што была праявай імкнення захаваць нацыянальную самастойнасць беларусаў. Эмацыянальна-ідэалагічны падыход элітаў Беларусі да падзеі звыш трохсотгадовай даўнасці нічым не меншы чым сярод беластоцкіх царкоўных дзеячаў. Рацыянальнага абмеркавання гэтай тэмы, здаецца, яшчэ доўга трэба будзе чакаць.

**У чаканні тэрмінатара**

Пару слоў праўды пра нацыянальны характар беларусаў выказаў дзеяч Беларускага народнага фронту Лявон Баршчэўскі. Беларусы, паводле ягоных даследванняў, не з'яўляюцца ні талерантнай, ні ветлівай, ні працавітай нацыяй. Большасць грамадзян падчас вольных і дэмактартычных прэзідэнцкіх выбараў у 1994 г. аддала свае галасы за тых кандыдатаў, якія ўвасаблялі тып тэрмінатара. Такіх кандыдатаў было двух — Пазьняк і Лукашэнка — і атрымалі яны звыш 70 працэнтаў галасоў у першым туры выбараў. Абяцалі, што калі атрымаюць уладу, тады навядуць парадак — пасадзяць, пакараюць і г.д. Кандыдаты, якія прапанавалі больш дэмакратычны сцэнарый развіцця падзеяў, адыгралі маргінальную ролю.

Шмат выступаючых шукала адказу на пытанне, што такое *этнас*, меншае зацікаўленне было паняццем *народ*. Пару вучоных, напрыклад Аляксей Саламонаў з Менска, гаварылі нават, што этнас гэта *боскае стварэнне*. Былі і іншыя надта смелыя тэзісы, напрыклад: Янка Купала як ідэолаг дэмакратызму, талерантнасці і плюралізму. У такім шырокім кругу людзей, прэзентуючых розныя плыні навуковай і грамадскай дзейнасці, маглі, зразумела, з'яўляцца ўсялякія высновы іх інтэлектуальнай творчасці.

**Беларускі блюз Шалкевіча**

На фоне надта тэарэтычных у сваёй большасці выступленняў вучоных і дзеячаў вельмі каларытным паказаўся канцэрт Віктара Шалкевіча на заканчэнне першага дня канферэнцыі. Ягоная самаіронія, шчырасць, з якой апісвае ў сваіх песнях беларусаў, яўрэяў, палякаў і рускіх, здаецца больш уносіць у развіццё беларускай нацыянальнай ідэі чым творчасць дзесяткаў вучоных. Нават песня пра паваленыя Яновічаў плот у Крынках гучыць у Беларусі як гімн пра гармонічны, свойскі беларускі свет, які выклікае вялікі сентымент у жыхароў „лукашенлэнда”.

**Арышт Гавіна і смерць Карпенкі**

17 красавіка беларускае тэлебачанне паінфармавала пра арышт міліцыяй старшыні Саюза палякаў Беларусі Тадэвуша Гавіна. У той час Гавін прабываў сярод удзельнікаў канферэнцыі, але раней сапраўды яго арыштавалі за ўдзел у нелегальным пікеце. Палякі выступілі да ўлад са сваімі асветнымі пастулатамі, але ўлады працягваюць ігнараваць іх патрабаванні. Спадар Гавін, — як мне сам сказаў, — заклікаў беларускіх нацыянальных дзеячаў ісці разам з палякамі са сваімі сімваламі і дамагацца таксама беларускага школьніцтва. Гэтая ж дзяржава называецца Беларусь, — пераконваў. Не пераканаў, палякі пайшлі самі, а суд над Гавіным, за парушэнне ім грамадскага парадку, вызначаны быў на 21 красвавіка.

У Беларусі шмат гаворыцца пра раптоўную і загадкавую смерць Генадзя Карпенкі. Шмат хто не верыць у натуральны сыход з гэтага свету апазіцыйнага дзеяча. Справа Карпенкі спалучаецца са справай былога дырэктара Нацыянальнага банка Беларусі Тацяны Віннікавай, якая пазбаўлена волі ўжо амаль два гады. Быццам бы нейкія інфармацыі, якія ведала Віннікава, дайшлі да Карпенкі, калі той збіраўся на нейкую канферэнцыю ў Варшаву. Але пра ўсё гэтае гаворыцца шэптам. Страх родам з савецкай эпохі бесканкурэнтна царствуе ў Беларусі.

**Гарадзенская мытня**

Сімвалам савецкага хамства і адсутнасці нацыянальнай ідэі з'яўляецца гарадзенская мытня. Зніклі натоўпы беларусаў, рускіх, якія ездзілі гандляваць у Польшчу, прапалі палякі, якія па розных прычынах наведвалі Гародню, засталіся толькі тыя самыя савецкія, не кранутыя часам мытнікі і пагранічнікі. Маламікіх пасажыраў цягніка, які адпраўляўся ў Польшчу, правяралі дакладна, з характэрным пачуццём нейкай кадэбісцкай пагарды. Вярталі назад грамадзян Беларусі, якія везлі на беластоцкі базар прадукты „советского производства”. Раней, каб купіць білет у Беласток, выдалі яны вялікую частку сваіх жабрачых пенсій. Мяне, замежніка, праверылі яшчэ больш дакладна. Двойчы пералічылі ўсе залатоўкі і беларускія рублі, якія я меў пры сябе, а не знайшоўшы ў падарожнай сумцы ніякіх, апрача кніжак, прадуктаў „советского производства”, папрасілі зняць боты і праверылі ці няма кантрабанды ў падэшвах. Усё закончылася шчасліва, бо боты вярнулі. Далей, аднак, не ведаю, чаму кожнаму іншаземцу, які прывозіць у Беларусь так пажаданую валюту і плаціць, напрыклад, за месца ў гатэлі ў 10 разоў больш чым мясцовыя, мытнікі і пагранічнікі безупынна даказваюць „что вы нам тут не нужны”.

Можна сабе толькі ўявіць сітуацыю, калі б на мяжы стаялі беларусы, людзі ва уніформах з пачуццём нацыянальнага гонару, які ведалі б, што іх паводзіны з'яўляюцца першай праявай характару нацыі. Пасажыры на прывітанне пачулі б тады невядомыя сучасным памежным службам словы: „Добры дзень”, на развітанне: „Жадаем добрага падарожжа”. Замежнікі пачулі б: „Цешымся, што захацелі вы нас наведаць, запрашаем прыехаць у чарговы раз”. Можа калі-небудзь здзейсняцца мары пра беларускую дзяржаву, якой функцыянеры на сваіх пастах будуць змагацца за захаванне нацыянальнага гонару беларусаў.

**Яўген МІРАНОВІЧ**

## Як яйкі курыцу навучылі

Студэнты IV курса факультэта гісторыі і культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы прымушаюць выкладчыкаў чытаць лекцыі па-беларуску.

У пачатку дзевяностых гадоў ва універсітэце імя Янкі Купалы былі спробы перавесці навучанне на беларускую мову. Аднак пасля змены дзяржаўнага курсу з „беларусізацыі” на „общеславянское братство”, многія выкладчыкі хутка змянілі свае погляды.

Усё ж да гэтага часу на гістарычным факультэце засталася традыцыя — дысцыпліны, якія датычацца гісторыі Беларусі выкладаюцца па-беларуску. Таму студэнты IV курса абурыліся, калі дацэнт Вячаслаў Леанавец пачаў чытаць курс „Гістарыяграфія Беларусі” па-руску. На ўсе патрабаванні перайсці на родную мову ён адказваў абяцаннямі, якіх не выконваў.

Нарэшце ў сярэдзіне красавіка студэнты напісалі калектыўны ліст на імя дэкана факультэта з патрабаваннем даць ім магчымасць вывучаць гістарыяграфію Радзімы на роднай мове і прыгразілі, што калі пытанне не будзе вырашана станоўча, яны звернуцца ў вышэйшыя інстанцыі і сродкі масавай інфармацыі.

Пасля размовы з дэканам, дацэнт Леанавец паабяцаў перайсці на беларускую мову. 22 красавіка ён прачытаў першую лекцыю па-беларуску.

**Зміцер КІСЕЛЬ**

## Трагічны выпадак у Лунінцы

У друку ўжо паведамлялася аб трагедыі, якая адбылася 11 красавіка 1999 года ў Лунінецкім гарнізоне. Стралок роты аховы адной з часцей Ваенна-паветраных сіл радавы Ігар Андрэеў, знаходзячыся на пасту па ахове склада, прымяняў спіртныя напоі і самавольна пакінуў ахоўваемы аб'ект. Па дарозе ў Лунінец ён зайшоў у памяшканне прываднай радыёстанцыі аэрадрома і расстраляў свайго саслужыўца.

Пагражаючы зброяй, злачынец затрымаў аўтамабіль, завалодаў ім і пачаў ехаць у напрамку цэнтра горада. На адным са скрыжаванняў салдат не справіўся з кіраваннем машынай і ўрэзаўся ў бардзюр. Пакінуўшы аўтамабіль, ён пачаў весці хаатычную стральбу з аўтамата. Адна з куль смяротна раніла маладога мужчыну. Пры спробе затрымання работнікамі міліцыі радавы Ігар Андрэеў паканчыў жыццё самагубствам, высстраліўшы сабе ў галаву. Зараз жа пасля выпадку ў часць прыбыла камісія на чале з камандуючым ВПС, якая праводзіць расследаванне прычын і акалічнасцей трагічнага здарэння.

*„Рэспубліка” № 85, 15.04.1999 г.*

## Перабоі з белым хлебам

Ужо два тыдні ў Крычаве назіраюцца перабоі з белым хлебам. Гэтую сітуацыю прадаўцы ў крамах тлумачаць адсутнасцю мукі на мясцовым хлебазаводзе. Але ж прыватныя пекары знаходзяць неабходную сыравіну, пякуць хлеб і маюць прыбытак.

*„Тыднёвік Магілёўскі” н-р 15 (56), 15 красавіка 1999 г.*

# На прадвесні ў Ялоўцы



**Першая думка, якая прыходзіць у Ялоўцы, гэта сесці ў аўтобус і вярнуцца ў Беласток.**

**— Кожны адсюль уцякае, — скажуць пазней у мясцовай краме.**

Ялоўка прывітала млосна-едкім пахам зрэзанай тапалі. Сярэдзінай вуліцы Дворнай ехаў дзядзька з возам гною. З доўгіх панадворкаў даносілася запяванне пеўня і беларуская мова. Крыху далей, усёй шырынёй вуліцы Шырокай, крочыў падхмелены гаспадар. Цяжка паверыць, што да вайны дзейнічала тут шэсцьдзесят дач — курортаў.

**Што ні крок — „хатка-небагатка"**

Першыя звесткі пра гарадзішча Ялоўка, заснаванае на літоўскіх правах, сягаюць у XV стагоддзе. У 1545 годзе каралева Бона выступае як фундатар царквы Уздзвіжання Крыжа Гасподняга ды каталіцкага касцёла. Тут на старажытным шляху з Кракава ў Навагрудак узнікае замак для каралёў-падарожнікаў і двор ялоўскага старасты. Разам з прывілеямі магдэбурскіх правоў уводзіцца новая *ляката* горада. Па сённяшні дзень захаваўся гістарычны план забудовы ды старыя назвы вуліц: Дворная, Рынак, Шырокая. На месцы колішняга рынку зараз знаходзіцца парк. Вырашыла я наведаць вуліцу Дворную. Што ні крок — сустрэнеце тут драўляную „хатку-небагатку" з адным пакоем і сенцамі, старыя стадолы з саламянымі стрэхамі, пахіленыя хляўчукі і драўляныя прыбіральні, аздобленыя сэрцайкам. Дзе-нідзе, ля вуліцы, віднеюць фундаменты мяшчанскіх дамоў або самотныя каменныя сходкі. Яны рэзка адцінаюцца ад неахайнай сялянскай забудовы.

**Самы цяжкі дзень зарплаты**

За прылаўкам харчовай крамы на вуліцы Шырокай дзве мясцовыя прыгажуні.

— Калі пачалі тут пабудову газаправода, крануўся рух у інтарэсах, — паясняе адна з іх. — А ўчора, калі быў дзень зарплаты, мы ледзь паспявалі абслугоўваць пакупнікоў, — хіхікаючы ўспамінаюць самы цяжкі дзень месяца сімпатычныя прадаўшчыцы. Як пазней дабавілі на вуліцы: *Некаторыя кліенты так напіліся, што ляжалі каля крамы.*

Газаправод радуе не толькі ўласніка крамы. На пабудове знайшло працу дванаццаць вартаўнікоў і некалькіх рабочых. У Ялоўцы дзейнічаюць дзве крамы, пошта, асяродак здароўя, грамадская апека, асяродак для састарэлых названы Домам рэнтыста, касцёл і царква.

— Lepiej sfotografuje mury kościoła, — адмаўляюцца ад прапанаванага здымка дзяўчаты за прылаўкам. Многія, дарэчы, жыхары Ялоўкі пасылалі мяне сфатаграфаваць узарваны немцамі ў 1943 годзе касцёл святога Антона.

**З перспектывы могільніка**

Маё падарожжа ў Ялоўку атрымалася дзень да Праваднай нядзелі. Айца Яўгена Канаховіча сустракаю на мясцовым могільніку. Пасля асвячэння магілы, святар успамінае шчырымі словамі памерлага: — Добры чалавек быў, сумленны, дзелавы, — кажа сваякам пра пакойнага Аляксандра Салаўя.

На могільніку, велічнёй у пяць гектараў, дзве часткі: праваслаўная і каталіцкая. Па адным і другім баку тыя ж самыя прозвішчы, пазначаны кірыліцай або лацінскім пісьмом. Усюды сустрэнеце тут Салаўя, Варону, Павільча, Носа. Аграмадная прастора могільніка, старыя каменныя помнікі ціха сведчаць пра велічыню і прэстыж колішняй Ялоўкі.

Сёння ў мястэчку, разам з пасяленымі ў Доме рэнтыста пенсіянерамі, усяго 361 чалавек. З перспектывы могільніка найбольш выразна відаць маланкавы тэмп адмірання мясцовасці. — У паміраючым свеце, жыццё праваслаўнага свяшчэнніка — як Хрыста на Крыжы, — уздыхае айцец Канаховіч.

**Вяселлі ў Доме рэнтыста**

Айцец Яўген Канаховіч нагадвае постаць са святых кніжак. Яго простыя, сардэчныя словы наводзяць добры спакой душы. У бацюшкі многа цікавых думак і прапаноў.

— Вы б пра Шэршаня ў „Ніве" напісалі, — успамінае самага папулярнага ў ваенны час паэта Беласточчыны.

Айцец Канаховіч дваццаць восем гадоў у Ялоўскім прыходзе.

— Як прыйшоў, было 2 600 душ, цяпер толькі 705 вернікаў. У самым мястэчку нямнога праваслаўных. Да прыходу належаць яшчэ вёскі: Кандраткі, Ганчары, Вейкі, Падазераны, Раманава, Старая Луплянка, Лявонавічы, Бахуры, Шымкі, Цісоўка, Залешаны, Навасады, Дзігелі і Новая Луплянка. Толькі апошняя вёска поўнасцю праваслаўная. У мінулым годзе ў прыходзе ахрысцілі трое дзяцей і пахавалі 22 асобы.

Самым „жывым" месцам паказаўся Дом рэнтыста, дзе адбыліся чатыры шлюбы. Айцец Яўген Канаховіч навучае таксама Закону Бажага ў школе ў Шымках. На 160 вучняў 88 ходзіць на праваслаўную рэлігію. Матушка Марыя паказвае дагледжаную царкву з цікавымі вітражамі і фрэскамі ды новую званіцу з утульнай капліцай. Да прыхода належыць яшчэ капліца ў Бахурах.

Матушка Марыя Канаховіч кіруе царкоўным хорам. — Нашае жыццё падпарадкавана царкве, — кажа яна. — Служым суботнія і нядзельныя вячэрні, усе багаслужбы. Многа прыязджае да бацюшкі з просьбай, каб маліўся за пацярпеўшых ад п'янства.

— Я веру, што беларусы не вымруць, — кажа на развітанне святар. — Народ тут моцны, з вялікім пачуццём гумару.

Ад слоў айца Яўгена робіцца добра на душы.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



# Бог вёў мяне рознымі дарогамі

[1 ☞ працяг]

ды выслухалі аднак мае прашэнне і перанеслі на парафію ў Кодні. Тут будучы святаром я паспеў закончыць акадэмію і напісаць магістэрскую працу. Яе тэмай была праблема, якая зацікавіла мяне пасля прыезду ў Кодэнь, а менавіта пачаткі уніяцтва на гэтай тэрыторыі. Мае парафіяне ўсё яшчэ жылі ў цяні глыбокай гісторыі.

Я прыехаў туды з Беласточчыны і сам бачыў колькі пацярпелі беларусы ў час вайны і пасля яе закančэння. Будучы хлапчуком я бачыў начныя зарывы над Залешанамі. Яны доўга яшчэ зганялі сон з вачэй жыхарам нашых вёсак. Пасля бачыў жыхароў пацыфікаваных і спаленых вёсак, якія ездзілі і прасілі саломы, хлеба, бульбы. Гэты вобраз запомніўся мне на ўсё жыццё. Я хацеў вярнуцца на сваю зямлю, адкрываць яе мінуўшчыну. Гісторыя нашага праваслаўнага беларускага народа цікавіла мяне штораз мацней. Бог зноў быў для мяне ласкавы. Я вярнуўся на Беласточчыну і затрымаўся ў Сямятычах амаль на чвэрць стагоддзя. Трапіў да сваіх людзей і апрача святарскай працы знаходзіў час для сваіх даследаванняў.

***— Чым для Вас з'яўляецца навуковая дзейнасць — гэта хобі, спосаб самарэалізацыі, служба Царкве і грамдству?***

— Напэўна не на кніжках, якія чалавек піша, не можна зарабіць. Калісь славуты Бальзак, пабачыўшы ўначы зладзеяў у сваім кабінеце, спытаў іх: „Чаго там ноччу шукаеце, я нават днём нічога там не магу знайсці". У мяне, на шчасце, добрая сям'я і за яе згодай магу час ад часу нейкія сродкі выдаткаваць на падтрымку навуковай дзейнасці, а перш за ўсё на куплю кніжак і іншых матэрыялаў, неабходных для гэтай працы. Ці гэта хобі? Абсалютна не. Так склалася, як я ўжо раней гаварыў, што пабываючы ў Кодні я задаў перш за ўсё сабе пытанне: чаму наш праваслаўны народ так пакутаваў? Адказ можна было знайсці толькі ў гісторыі. З гэтага пачалося. Пасля я зарыентаваўся, што калі іншыя пісалі нам нашу гісторыю, гэта ніколі нам не прыносіла дабра. А народ без памяці і гісторыі перастае быць народам. Гісторыяй я займаюся маючы на ўвазе перш за ўсё будучыню свайго народа і сваёй Царквы. Мае бібліяграфічныя працы з'яўляюцца таксама нейкім доказам, што мы тут не госці, а першыя хрысціяне на гэтай зямлі. Пасля прыйшлі іншыя.

***— Трыццаць гадоў навуковай дзейнасці і амаль 400 публікацый — такім дасягненнем не пахваліцца кожны універсітэцкі прафесар. Адкуль знаходзіце ў сабе столькі матывіроўкі для творчай працы?***

— Сапраўды сабралася гэтага за 30 гадоў даволі многа. Так склалася, што я меў вялікае шчасце, найчасцей сустракаў на сваёй дарозе людзей добразычлівых, не здарылася так, што недзе была нейкая кніжка і нехта адмовіўся даць мне пакарыстацца ёю, звычайна пазычыць. Калі ў сямідзесятыя гады я шукаў матэрыялаў у бібліятэках Менска, улады далі мне „апекуна"-жанчыну, якая спачатку іранічна ставілася да навуковай дзейнасці праваслаўнага святара, але на развітанне падаравала мне выданне Сакольчыка *Бібліяграфія беларускай кніжкі*. Яе вартасць для мяне была проста неацэннай. Сустрэў я шмат людзей, якія мне спрыялі, аблягчалі доступ да дакументаў, архіўных матэрыялаў. Добразычлівасць з боку людзей — несумненная праява Божага блаславлення. Ці ў Сямятычах, ці Рыбалах я адчуваў блізкасць добрых людзей. І гэта ўсё паспрыяла таму, што мне ўдалося напісаць некалькі кніжак, некалькі соцень артыкулаў.

***— Айцец Рыгор, дзякую за размову і ад усяго калектыву „Нівы" жадаю Вам доўгіх гадоў служэння Царкве і нашаму беларускаму народу, добрага здароўя і каб у далей шым сустракалі Вы на сваёй жыццёвай дарозе толькі добразычлівых людзей.***

**Размаўляў Яўген Міраповіч**

# Дапаможам пацярпелым ад паводкі

У сакавіку г.г. у Рэспубліцы Беларусь адбылася вялікая паводка. У 23 раёнах пад вадою аказаліся 204 населеныя пункты, 103 тыс. гектараў пасяўной плошчы і 5 тысяч жылых дамоў. Больш за 2 тысячы жыхароў былі перасслены ў іншыя раёны рэспублікі. У выніку паводкі было пашкоджана каля 30 км дарог і 7 мастоў.

У сувязі са стыхіяй, праваслаўныя брацтвы і Беларускае грамадска-культурнае таварыства арганізуюць гуманітарную дапамогу пацярпелым ад паводкі, якая будзе дастаўлена ў Беларусь да 15 мая г.г.

Арганізатары звяртаюцца з заклікам да ўсіх людзей добрай волі аказаць фінансавую і матэрыяльную дапамогу.

Адзенне для дзяцей і дарослых, пледы прымаюцца штодзённа ў бюро Праваслаўнага брацтва ў Беластоку, па вул. Ліповай, 15 Б, пакой 2 А з 16-18 гадзін і ў пунктах па вул. Высоцкага, 1 з 12-15 гадзін, ГП БГКТ па вул. Варшаўскай, 11 з 8-15 гадзін, у Гайнаўцы — у Праваслаўным брацтве ў Свята-Троіцкай царкве, у Бельску-Падляшскім — у Пачатковай школе № 3, па вул. Каперніка, 4, у Сямятычах — у Петра-Паўлаўскім прыходзе, па вул. Студзеньскага паўстання, 1.

Поўную інфармацыю можна атрымаць таксама па тэлефонах: у Беластоку — (0-85) 744 55 11 або 743 51 18, у Гайнаўцы — (0-85) 683 23 47 і ў Бельску — (0-85) 730 25 08.

Грошы можна пералічваць на рахунак: Bractwo Cerkiewne Świętego Mikołaja, PKO BP II Oddział w Białymstoku, **nr 10201329-90463-270-1** з прыпіскай „Pomoc powodzianom w Białorusi".

**Камітэт дапамогі пацярпелым ад паводкі ў Рэспубліцы Беларусь**

# *Галубы, марожанае і дубінкі*

**або**

**Асабістая гісторыя святкавання 1 Мая**

Надыход вясны ў маім дзяцінстве не суправаджаўся афіцыйна прызнанымі ўцёкамі са школы і спальваннем чучала зімы. Затое ў гэтую пару мы штогоду на ўроках спеваў развучвалі песню пра бусла на клуні (*Kle-kle boćku, kle-kle, usiądź na stodole...*), а на практычных занятках клеілі каляровыя сцяжкі і белыя галубы міру. Віселі яны потым у вокнах школы і быў гэта, разам з выліняламі бела-чырвоным і чырвоным сцягамі над школьным ганкам, адзіны ў маёй вёсцы першамайскі акцэнт.

Найбліжэйшае шэсце адбывалася па гмінным цэнтры — Нарве. Наша школа ў ім не ўдзельнічала. З вёскі ездзілі туды дэлегацыі калгаса і добраахвотнай пажарнай каманды. Я страшэнна зайздросціў сябрам, якіх бацькі былі калгаснікамі або пажарнікамі-дабравольцамі, бо яны часам ездзілі з дарослымі. А 1 мая ў Нарве пачынаўся сезон на марожанае.

Гміннае свята працы бачыў я толькі раз. Выбраліся мы ў Нарву цэлай кампаніяй і адолелі сем кіламетраў хто пехатою, а хто на роварах з абавязковым пасажырам на раме. Марожанае было надта салодкае, жоўтае і накладалася лыжкай у вафлевы кубак. Само немнагалюднае шэсце па вузкай вуліцы Міцкевіча між старых хілых драўляных дамоў, пасля ўжо бачаных у тэлевізары варшаўска-маскоўскіх дэманстрацый, расчаравала. Затое імпазантна трэніраваліся пажарнікі ў раскручванні шлангаў і тушэнні гумовых шын. Ганарыліся сябры бацькамі.

Потым тыя пажарнікі так нарэзаліся гарэлкі, што вяртаючыся сваім чырвоным бочкавозам на вялікай хуткасці і зігзагамі, пазганялі ўсіх старэчаў з вясковых лавак. Некалькі разоў урэзаліся ў плот і спыніліся на ганку нашай драўлянай школы. На тым ганку са святочнымі сцягамі.

Гэтае здарэнне, пэўна, не запісалася ў гісторыі сусветнай рэвалюцыі і не паўплывала на спад яе дынамізму, але ў нашай ваколіцы сышлося з паменшаннем энтузіязму для рабочых свят. Хутка пасля таго ў Нарве не стала першамайскіх шэсцяў. Наша школа, праўда, яшчэ доўга займалася вырабам галубоў і сцяжкоў, але малыя саматужнікі ўсё больш пераймалі ад дарослых адносіны да свята. А дарослыя не толькі ў гэты дзень не святкавалі, але і, мякка кажучы, не паважалі гэтай урачыстасці.

У першыя пасляваенныя гады пашану для новай сацыялістычнай традыцыі спрабавалі ўвесці міліцыянты, якія 1 мая зганялі з палёў і штрафавалі аратых. Але мне ўжо пра гэта бацькі расказвалі без абурэння, а як пра нейкі недарэчны анекдот.

У ліцэі я толькі раз не пакарыстаўся правам сына гаспадара-адзіночкі і не звольніўся з шэсця садзіць бульбу. І хутка гэтага пашкадаваў. Дзень быў халодны, а да таго час ад часу цярушыла непрыемная імжа. Абыякавая маса школьнікаў доўга фарміравалася ў шэсце на гарадскім стадыёне, а потым плялася з вялікімі штандарамі па вуліцах Гайнаўкі ля ганаровай трыбуны каля раённага камітэта партыі. З гукаўзмацняльнікаў не ў такт ідучым барабанілі маршы і прамовы пра дасягненні сацыялізму ў цэлым і нашага чырвонага гарадка, у прыватнасці. Як да музыкі, так і да дасягненняў маршыруючы народ ставіўся горш чым скептычна, з насмешкай.

Жывое першамайскае шэсце ўбачыў я ў 1986 годзе ў Варшаве. Мне, як студэнту першага курса, у сталіцы ўсё тады было цікава. На афіцыйны мітынг працоўных на чале з першым сакратаром генералам Ярузельскім мы з сябрам не прабіліся праз міліцэйскія загароджы вакол плошчы ля Магілы невядомаму жаўнеру. Мала таго, раз-пораз растрыбушвалі нашы заплечнікі. Калі ў сябра забралі ножнічкі, паехалі мы на контрманіфестацыю да касцёла святога Станіслава Косткі, дзе раней служыў замардаваны органамі дзяржаўнай бяспекі ксёндз Ежы Папялушка, і дзе народ ні разу не прапускаў нагоды, каб паказаць уладам свой супраціў.

На гэты раз таксама пасля багаслужбы з касцёла і прыкасцельнага дзядзінца выйшаў неміралюбна настаўлены да існуючага парадку натоўп. З транспарантамі і абразлівымі воклічамі ў адрас міліцыянтаў, якія ўжо чакалі. Запрацавалі скіраваныя на людзей мотапомпы, пайшлі ў рух камяні і дубінкі, пад ездакамі ва ўніформах на скверыку танцавалі коні. Іх акцыі я не бачыў, бо мы ўцяклі першым трамваем.

А ў цэнтры сем'і вярталіся з афіцыйнага мітынгу. Дзеці лізалі марожанае, неслі шары, махалі сцяжкамі.

Гэта быў мой апошні асабіста адзначаны першамай.

**Мікола Ваўранюк**

<u>**Нашы чытачы аб вайне НАТО з Югаславіяй**</u>

# *„Віна" Яна Сабескага*

Польскі штотыднёвік „Паліτыка" ў сёлетнім 14 нумары напісаў наступнае: „У XVII ст. многія продкі сённяшніх албанцаў пасяляюцца ў Косаве" (стар. 17). Гэта не зусім так. „Вінаватым" у гэтым быў кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ян III Сабескі, які ў 1683 г. перамог туркаў пад Венай, заняў сталіцу венгерскіх прымасаў Эстэргам і заняў бы іх галоўны горад Буду, калі б не зайздрасць аўстрыйцаў, якія баяліся (не беспадстаўна), што тады венгры аб'яваць сваім каралём пераможнага паляка. Самі Габсбургі ўрэшце занялі сталіцу Венгрыі Буду ў 1686 г. і пад кіраўніцтвам таленавітага і „беспрацоўнага" італьянскага князя Яўгена Савойскага стаяць працягвалі аўстрыйскія салдаты.

На турэцкіх Балканах кіпела ўжо здаўна, а ў 1688 г. паўсталі поўныя надзеі сербы, адзін з самых храбрых, апрача чарнагорцаў, тамашніх народаў. Пасля шматмесячнага змагання паўстанне ўпала. Некалькі тысяч сербаў было знішчаных туркамі і вернымі ім албанцамі, а каля 200 тысяч разам з праваслаўным патрыярхам выйшла на занятыя аўстрыйцамі землі, ствараючы сваю галоўную сядзібу ў мястэчку Сентэндрэ, на поўнач ад сённяшняга Будапешта. Сербы пасяліліся таксама ля мяжы з Турцыяй у якасці вартаўнікоў, г.зв. „гранічары", на поўдні Харватыі. Патомкі гэтых вартаўнікоў мяжу Босніі сербаў сталі вялікай праблемай у Харватыі ў XX ст.

А землі ў сербскім Косаве раздалі туркі пасля падаўлення паўстання „за верную службу" албанцам, якія маюць меншае права да гэтай зямлі чым, напрыклад, немцы да Ніжняй Сілезіі, якую ў сярэднявеччы занялі яны мірным шляхам, а нават ужо ў 1241 г. яе разам з польскімі князямі абаранялі ад татараў. Апрача таго яшчэ ў XX ст. вельмі салідарныя албанцы выцяснялі з Косава рэшткі сербаў, выкупляючы пастаянна дамы і зямлю (ведаю гэта па расказах бестароннніх венграў).

А дзе ж балканская Беларусь? Гэта Македонія — зямля бедных і добрых людзей, якія маюць вялікія традыцыі каралёў Філіпа і Аляксандра Македонскіх. У Македоніі сапраўдны нацыянальны рух пачаўся толькі на пераломе XIX і XX ст.ст. Ні балгары, ні грэкі не хацелі прызнаць македонскую нацыянальнасць. Сённяшнія македонцы ўдзячны сербам, што іх прызналі.

Быў я калісьці на экскурсіі ў Сербіі і Македоніі. З аўтобуса заўважыў я розніцу паміж абедзвюма краінамі. У Сербіі нацыяналістычна настроеная жанчына не хацела ўпусціць нас у прыбіральню, калі прапанавалі мы ёй амерыканскія цэнты — патрабавала афіцыйныя дынары. Затое ў добрай і беднай Македоніі пісалі мы даволі, разглядаючы згары танцуючую ў далінe вясельную раніцу.

І што цяпер будзе ў спакойнай Македоніі, калі цвёрдыя албанцы складуць палову яе насельніцтва?

**Вацлаў Урбан**

**(Кельцы — Кракаў)**

# *Забілі кароўку, далі вяроўку*

Вайна ў Югаславіі не спынілася нават на велікодны перыяд. Бомбы „made in USA" падаюць на школы і бальніцы, забіваюць дзяцей. Ад бомбы загарэлася царква. Натаўская прапаганда сцвярджае, што жыхары Косава ўцякаюць толькі ад сербаў, але не ад іх бомбаў.

Туркі, якія забіваюць курдаў, цяпер для прыкрыцця сваіх злачынстваў накормяць 20 тыс. касаўскіх албанцаў. Аднак Турцыі ніхто не перашкаджаў праследаваць курдаў, бо гэтая краіна з'яўляецца членам НАТО. Паўночнаатлантычны пакт не ўмешваецца таксама ў канфлікт паміж каталікамі і пратэстантамі ў Паўночнай Ірландыі.

Папа рымскі рашуча не асудзіў бамбардзіроўкі, толькі заклікае адкрыць паветраны мост для гуманітарнай дапамогі. Але ломжынскі біскуп Стэфанэк адважыўся назваць варварскімі натаўскія зверствы ў Югаславіі.

НАТО забівае кароўку, а ўзамен дае вяроўку. Ці ж гэта па-хрысціянску, калі дзеля міру і спакою развязваюць вайну? Хрыстос сказаў: не мір я вам прынёс, але агонь і хачу, каб ён разгарэўся, але пасля дадаў: хто мячом ваюе, ад мяча і гіне. Ці ж амерыканцы і іх паплечнікі хочуць выклікаць трэцюю сусветную вайну? Ці амерыканцам не дастаткова В'етнама і вёскі Мы-Лай?

Мабыць, у час святкавання 50-годдзя НАТО прэзідэнт ЗША Біл Клінтан і яго дзевятнаццаць натаўскіх калег падымуць бакалы з югаслаўскай горкаю гарэлкай. А можа з гэтай нагоды амерыканскаму прэзідэнту будзе прысвоена мірная Нобелеўская прэмія? Канчаецца другое тысячагоддзе, а людзі далей ставяцца да сябе варожа. Homo homini lupus est.

**Дзядзька Захар**

# *З'ядуць нас*

[1 ☞ працяг]

каб не паказваць гістарычнай праўды. А мы гэтага не можам дапусціць!

Даходзіць таксама да адкрытага зацірання нашай прысутнасці на роднай зямлі: за нашы сродкі адбылася ў Беластоку сесія Гарадской рады, на якой наплявалі нам у твар.

Паводзіны беластоцкіх уладаў набываюць вядомасць і па-за межамі ваяводства; пісала пра іх ужо парыжская „Культура". Падчас прэзентацыі Падляшскага ваяводства ў Варшаве 60% пытанняў, якія ставілі журналісты прадстаўнікам ваяводства, адносіліся да нацыянальных праблем. Віцэ-прэзідэнт Беластока Марэк Казлоўскі абураўся, гаворачы, што ўлады дафінансоўваюць меншасныя мерапрыемствы, прыводзячы ў прыклад Дні Беластока. Аднак падчас тых Дзён меншасных акцэнтаў — ні слова!

Чарговым прыкладам пагарджання меншасцямі з'яўляецца фарміраванне бюджэту ваяводства на гэты год. Для першага чытання Юры Панасюк, Аляксандр Сяліцкі, Яўген Чыквін і я прадставілі прапанову дафінансаваць наступныя мерапрыемствы:

— навуковую сесію н.т. „Гісторыя Праваслаўнай царквы ў Польшчы" у чэрвені г.г., на якую запрасілі вучоных з Кракава і Варшавы;

— мастацкія сустрэчы Гродна-Беласток і канферэнцыю „Шлях да ўзаемнасці";

— агульнапольскую прэзентацыю культуры нацыянальных меншасцей;

— Свята беларускай культуры;

— пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы;

— Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.

Усе гэтыя прапановы былі адкінуты: за выказаліся 16 радных, а супраць — 23, у тым ліку ўсе ад АВС. У час перапынку падышоў да мне віцэ-маршалак і сказаў, што праўленне знойдзе сродкі на гэтыя мерапрыемствы, аднак жа мы дабіваліся пастановы сейміка ў гэтых справах. Рашэнне сейміка сведчыць, што ён не прызнае нацыянальную рэчаіснасць у ваяводстве, хаця міжнародныя абавязацельствы гэты абавязак ускладваюць менавіта на самаўрады, у іх ліку і ваяводскія. А вось на днях я атрымаў вусную інфармацыю, што фінансавую падтрымку атрымаў V Фестываль сакральнай песні ў Лапах, арганізаваны тамашнімі Домам культуры і парафіяй.

Чарговая справа, гэта кадравая палітыка. Гарадская ўправа ў Беластоку выпаласкана з прадстаўнікоў беларускай меншасці, так як і ваяводская. У аўтарытэтных дзяржавах, напр. у Італіі ці Германіі, намеснікам старшыні з'яўляецца прадстаўнік меншасцей; гэта лагодзіць суадносіны. А ў нас? Былі прапанаваны і Вапа, і Латышонак, аднак не дапусцілі нас да ўплыву на нашы справы і то рашэннем ужо цэнтральных уладаў. Адзін з беластоцкіх каталіцкіх іерархаў сказаў, што палітыка павагі правоў меншасцей згодная з цывілізаванымі нормамі з'яўляецца недарэчнай і шкоднай. Такога ж меркавання прытрымліваюцца гарадскія ўлады. Старшыня ваяводскага сейміка К. Юргель на сустрэчы ў Бельску на пытанне, ці мог бы ён стварыць камісію, якая загнала б беларусаў у рэзерват, адказаў, што не можа гэтага гарантаваць і абяцаць. Падчас сеймавага галасавання над законам аб нацыянальных меншасцях, пасол Юргель галасаваў супраць такога закона ў нашай дзяржаве.

Усё гэта прымушае нас задумацца, ці не варта сарганізаваць сустрэчу ўсіх нашых арганізацый ды абсудзіць і вызначыць найважнейшыя прыярытэты і супольныя дзеянні, а таксама скласці каталог беларускіх спраў, напрыклад:

— выбары: каб не кожны сабе, а разам;

— асветныя справы: аднолькавы пункт гледжання на нацыянальную асвету, асабліва падчас праводжанай рэформы. Каб вывучалася беларуская мова ў гімназіях і ліцэях, каб забяспечваліся падручнікамі і літаратурай, каб нічога не загубіць з нашых каштоўнасцей; сёння з культуры маем толькі некалькі спеўнікаў, а патрэбны падручнікі па гісторыі і культуры нашага рэгіёна. У нас сёння адны арганізуюць адно, іншыя другое; там адзін скубе крыху сродкаў, там другі, узаемна аплёўваючыся... А тыя, хто да нас так пагардліва адносяцца, толькі гэтым цешацца.

Ва ўсіх істотных справах трэба нам гаварыць адным голасам. Я ў рамках дзейнасці Клуба праваслаўнай інтэлігенцыі хачу склікаць такое супольнае спатканне. Падчас перадвыбарчых сустрэч мае выбаршчыкі патрабавалі вельмі рашучых дзеянняў у абарону нашых інтарэсаў. „Бараніце нас, бо нас з'ядуць", — гаварылі мне. **(ав)**

# Літаратурная старонка (472)

Зьміцер ЦЕХАНОВІЧ

## Беларускае Слова

Беларускае слова народжана Вечнасьцяй.

Гэта ведаюць-адчуваюць ня толькі пераборлівыя гурманы прыгожага пісьменства, але й усе тыя, хто здольны да спазнаньня надзвычайнай гожасьці й зграбнасьці Яго Вялікасьці Слова, якое, як вядома, было спачатку.

Беларускае Слова... Пяшчота й меч, стрыманасьць і полымя, дасканаласьць і геніяльная простасьць у некалькіх радках — паэтычных ці празаічных. Бо: Беларускае Слова люляецца Вечнасьцяй.

А як, часам, хочацца Вечнасьці!..

І тады я, звычайны сьмяротны, бяру ў рукі Кнігу, каб дакрануцца да Спадарыні Вечнасьці ў самым рафінаваным яе выглядзе — у выглядзе Беларускага Слова. Бо так хочацца Вечнасьці...

Беларускае Слова... „Жывая песьня ў мёртвых сьнягах", „празрыста-сіняе неба над густа-сіняй зямлёй" (У. Караткевіч)...

Расхінеце Сэрцы!

Настройце струны Душаў на лад Стагодзьдзяў — былых і наступных.

Чуеце?..

Беларускае Слова!

Важкае, сьветлае ў сваёй глыбокасьці, шляхетнае.

Ірына РАДЗІВАНЮК

* * *

Прыйдзе такі дзень,
калі станеш насупраць сябе
і не зможаш прайсці.

Алена АНШЭЎСКАЯ

## Дзе шчасце

Шчасце заўсёды
ходзіць упары з маладосцю.
Імя яго рознае бывае:
вясняныя вятры
дождж і снег
маладосці грэх
без прычыны смех
і слёзы рэдкія
што хутка абсыхаюць.
Ідзеш наперад, верыш
— заўтра заўсёды лепшае
чым учора.
Бяжыш да лепшага,
а лепшае ўцякае...
Стомішся,
прыстанеш адпачыць,
на ростані дарог глядзіш —
спагадлівая старасць
цябе ўжо сустракае.
А шчасце дзе?
— наперадзе —
ідзі, бяжы...

Ліна КАСТЭНКА

* * *

Не трэба думаць нам мізэрна.

Яшчэ ёсць бессмяротнасць дзе-нідзе.

Хтосьці правеяны, бы зерне,
ў глебу паэзіі ўпадзе.

Для мастака не трэба ўзнагарод,
лёс ўзнагародзіў яго не на адзін век.

Калі ў чалавека ёсць народ,
тады й ён сам ужо чалавек.

*Са зборніка „Выбранае" (Кіеў, 1989)*
*З украінскай мовы пераклаў*
*Юры ТРАЧУК*

Міра ЛУКША

## Жах у смехатворных снах

Самы страшны тып — крыху вучаны навучаны не смяецца. Бо разумны чалавек мае ўсяго ў адпаведнай дозе. А гэта не залежыць ад адукацыі і дыпломаў — розум, веды, культура ды пачуццё гумару.

Хоць княжыча Несмяяна так медалямі хвалы абсыплюць, заваляць, што ад іх цяжару аж гнецца, падае, але слодыч ад таго неверагодная, а такі ўпадак ад цяжару гонару — гонар. Нічога, калі ёсць сярод іх медалі, якія ён здзірае і з чужых грудзей, каб прышпіліць хоць іржавым цвіком да ўласнае ўдалае грудзіны. Ніштo, што нармальнаму, простаму чалавеку павінна балець, але не яму — бо грудзі свае, медаль — ужо свой, бо падпісаны, а той, з каго ён сарваў — не большы мухі, а калі і бзыкае, то што той мушыны піск, зусім не чутны ў высокіх сферах! Спляжыш, не заўважыш.

Калісьці былі такія людзі, што думалі, што княжыч Несмяян, той сур'ёзны вучоны смяяцца ўмее, а ўсмешка ў яго была сапраўды асляпляльна-захапляльнай. Але калі запісаўся быў у Акадэмію забойчае нуды і ў міжнародныя клубы Драпаючага пяра ды Мірных узаемазахапляльнікаў, дык тая ўсмешка засталася толькі на памятных здымках. Членаў „Клубіка смешных сатыркоў з мірнай галінкай хмелю замест хваста" называе вось „Гуртом пашквільных пачварэнцаў", а іхны орган „Хіхікі" лічыць паспалітымі кепікамі. А не кожны можа ж трапіць у шаноўныя рады тых, з якіх лагодна падсмейваюцца смешныя бязрогія сатыркі, не разумее гонару быць імі закранутым за мяккае месца! Калі кажаш на іх вобразна „кусачыя вашывыя блохі", то хоць не вывалакай на іх гармату, заражаную такімі ядрамі, што можаш спляжыць усё асяроддзе! Разам з тваім замкам са „слановай косці". У нас, сярмяжных мужыкоў, такая костка не ў цане, хутчэй аброслая мясам, з тукам. А з „касцяных дзядкоў", што самі злаўчыліся ўскараскацца на п'едэстал, падтрымліваных неўдалотнымі недаросткамі на хадулях — смешнае відовішча. Але — барані бог смяяцца! А што рабіць, калі тая ўсмешка застывае табе на твары як класічная трагічная маска... калі ты пачуеш каментарый да каментарыя?..

Смейцеся, сябры, бо ўсё ж лепш канаць у Лету ў вясёлай кампаніі!

Міхась АНДРАСЮК

## Маё сусвету заклінанне

Маё сусвету заклінанне,
узмахі рук, узлёты слоў,
і памяць — белае вясло,
і бераг чорны — забыванне.

Маё сусвету шкадаванне,
малітва за,
малітва да,
малітва ад.
Імша за яблык, што ідзе на спад
і яблыняй з травы не ўстане.

Маё сусвету варажэнне
дзе лінія лёсу,
лінія лёсу,
дзе адкос.
І што такое ёсць — няўлоўны лёс,
якіх дарог з якой хвілінай
скрыжаванне.
Маё сусвету заклінанне.

Анатоль СЫС

* * *

Берасцянае неба. Роднае.
Мір астральны мой — ад цябе.
Бо зямное, нібы падлёднае,
да паветра палонку б'е.

Галавою.

А трэба б сэрцам
растапіць безнадзейны лёд,
а інакш, у паняверцы
урасце ў яго ўвесь народ.

Зашклянеюць і кроў, і вены,
мозг раструшчыцца, быццам шкло,
ад яго ледзяной гангрэны
патыхне чалавечым тлом.

Берасцянае неба. Выратуй!
Ачышчальным агнём сваім
спапялі чалавекавырадкаў,
размяці іхны прах і дым.

Уладзімір САЎЧУК

* * *

я сядзеў ля акна
спаглядаў на свой шлях
і сляза ўспамінаў упала

а Ты
шчыра смяешся на здымку

за акном небасхіл
срэбрам шкло ўмаляваў
і зіму запрасіў на калядкі

выйшаў ночкай у прагон
холад душу лізнуў
маладое ўсё ж сэрца ўскіпела

тут бяда навакол
вятры мчацца ў сяло
цяжка супраць ісці
хатка сумна маўчыць
далягляд пасівеў
як адрынка ля рэчкі знямелай

Іаланта КАБЗАР

* * *

Я анямела
Перад аблічам Сусвету
Выстаўленая пад агонь
Усёведаючага вока

Што ж сказаць Табе
Калі нават чарвяк
У Цябе таямніцы не мае

А я сама для сябе
таямніца
І сама ў сабе
Загубіла слова

Міра ЛУКША

* * *

О, як калюча вее вецер з Беларусі!
Паўз могілак іду сцяжынкай і малюся.
Расуе жыта, сонца хістка падае ў хваіну.
За мной — дыханне тых, што ўжо загінуў,

А перад тварам мрояцца ў тумане
Постаці тых, хто пасля мяне тут стане.
Няма мяжы між учора, заўтра і сягоння.
І разам з жытам я хвалююся ў паклоне.

Юры БАЕНА

* * *

У гербарыі сноў
прачнуўся звон.
Грымнуў гром
над светам. —

Усталі травы.
Сады ўзнялі
харугвы
пакінутай Айчыны...

Магда ШЫМЧУК

## Ружа

Хацела б быць пялёсткам
ружы,
каб магчы
аддаць сябе
без калючак у тваё далоні.
І пахнуць для Цябе,
расцвітаць кожнай раніцай,
і ў сяйве месяца,
і ў мігценні зорак.
Але ўсё ж
параніла б цябе я,
ружа.

## Паэтычны чацвер

Аўтарскія сустрэчы ўносяць у кантакт творца-чытач элементы непасрэднасці, блізкасці. Асабліва, калі гэта такая асабістая, непаўторна-індывідуальная літаратурная матэрыя як паэзія Надзеі Артымовіч.

Паэтка сустрэлася са сваімі чытачамі 15 красавіка на Кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку, у рамках цыклічных беларускіх чацвяргоў. Сустрэча пачалася цёплым уводным словам загадчыцы Кафедры праф. Альжбеты Смулковай. Сказала яна, што Надзея Артымовіч будучы яшчэ студэнткай беларусістыкі Варшаўскага універсітэта, звяртала ўвагу сваёй багатай душою, індывідуальнасцю. І гэта выразна адчуваецца ва ўсёй яе творчасці, казала пані прафесар. Студэнтка з выкладчыцай сустрэліся ўпершыню пасля чвэрці стагоддзя, дык не абышлося без хвалявання.

Надзея Артымовіч у час сустрэчы, пасля кароткага слова пра свой жыццёвы і творчы шлях, засяродзіла ўвагу на тэкстах. Чытала свае старыя і новыя вершы, а таксама некаторыя пераклады на польскую мову. І хоць упачатку зрабіла агаворку, што аўтары наогул свае творы чытаюць дрэнна, пасля можна было падумаць, што гэта какетнічанне, бо наўрад ці які акцёр з натрэніраваным галасам так перадаў бы сэнс вершаў Надзеі Артымовіч, як сама аўтарка.

Публіка ў той чацвер на Кафедры беларускай культуры сабралася невялікая, але і невыпадковая. Былі тыя, хто чытае паэзію і каго даўно ўжо заваражыла сваім словам Надзея Артымовіч. Падзякай ёй быў букет жоўтых ружаў.

М. В.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Артыкулы квартала

Завяршыўся I Конкурс для карэспандэнтаў „Зоркі" пад загалоўкам „Артыкулы квартала". Конкурс датычыў артыкулаў надрукаваных на нашых старонках на працягу 1.01 — 15.03.1999 г. Пад галасаванне чытачоў мы прапанавалі 9 артыкулаў — назначэнняў. Прыгадайма нашыя прапановы:

1. **Жыццё мяняецца** — інтэрв'ю пра святкаванне Каляд, „Ніва" н-р 1 ад 3.01.1999 г., аўтары: **Жанэта Роля** і **Кася Лукашук**.

2. **Слухаю сваіх сяброў** — інтэрв'ю з Юркам Ляшчынскім, журналістам Радыё Беласток, „Ніва" н-р 3 ад 17.01.1999 г., аўтар: **Юрка Буйнюк**.

3. **Тры дні ў Белавежскай пушчы** — прэсавая інфармацыя, „Ніва" н-р 4 ад 24.01.1999 г., аўтар: **Наталля Бабулевіч**.

4. **Пульс першабытнай пушчы** — прэсавая інфармацыя, „Ніва" н-р 5 ад 31.01.1999 г., аўтар: **Анна Аўсянюк**.

5. **І ў яго ёсць гнілое яблыка** — інфармацыя пра сустрэчу з Янам Чыквіным, „Ніва" н-р 6 ад 7.02.1999 года, аўтар: **Анна Садоўская**.

6. **Умееш лічыць — різлічвай на сябе** — інтэрв'ю з Міхалам Мінцэвічам, „Ніва" н-р 7 ад 14.02.1999 г., аўтар: **Сільвія Шыманская**.

7. **Абстрыжаная беларускасць** — фельетон пра дарастанне і буру гармонаў, „Ніва" н-р 8 ад 21.02.1999 г., аўтары: **Агнешка Галімская і Анна Садоўская**.

8. **„... Пачынаецца ўсё з любві..."** — інфармацыя пра Дзень закаханых, „Ніва" н-р 9 ад 28.02.1999 г., аўтар: **Мажэна Жменька**.

9. **Астануся мастаком** — фельетон на тэму „Адкуль бярэцца мастацтва", „Ніва" н-р 9 ад 28.02.1999 г., аўтар: **Міхась Сцепанюк**.

Задачай чытача было выбраць адзін артыкул і даслаць прозвішча яго аўтара ў „Зорку" да 15 красавіка г.г. Рэдакцыя не абмяжоўвала ўзросту ўдзельнікаў. Аднак па колькасці (98 працэнтаў) пераважалі вучні пачатковых школ, нярэдка сябры аўтараў конкурсу.



Найбольш галасоў чытачоў набраў артыкул-фельетон **Міхася Сцепанюка** пад загалоўкам **„Астануся мастаком"** — (140 балаў).

**Пераможца атрымае рэчавую ўзнагароду за 100 злотых.**

Узнагароду „Зоркі" ў выглядзе фотарэпартажу атрымаюць таксама аднакласнікі-пераможцы, **вучні кл. VIII „е" ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**.

**Узнагароды** разыгралі мы таксама сярод удзельнікаў конкурсу.

**Гадавую падпіску на „Ніву"** атрымае **Аліна Сікорская**, вучаніца ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

**Польска-беларускі слоўнік**: **Эва Прафірук**, кл. VIII „а", ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

**Альбом мастацтва пра горад Бельск-Падляшскі** выйграў **Давід Рошчанка** з ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

**Віншуем!** Узнагароды ўручым у час урачыстай сустрэчы ў **ПШ н-р 3**.

Ніжэй прыводзім загалоўкі артыкулаў, на якія найчасцей галасавалі чытачы:

— **Пачынаецца ўсё з любві**, аўтар: Мажэна Жменька (110 балаў).

— **Жыццё мяняецца**, аўтары: Жанэта Роля і Кася Лукашук (30 балаў).

— **Абстрыжаная беларускасць**, аўтары: Агнешка Галімская і Аня Садоўская (10 балаў).

— **Тры дні ў Белавежскай пушчы**, аўтар: Наталля Бабулевіч (10 балаў).

## Беларуская мова на ўроках рэлігіі




— Кожная дарога да Бога ёсць добрая, — кажа Лена Добаш, настаўніца праваслаўнай рэлігіі ў ПШ н-р 5 у Беластоку.

Навучэнцы спадарыні Добаш вылучаюцца цікавасцю да беларускай мовы. Сёлета ўдзельнічалі ў тэатральным аглядзе ў Кляшчэлях, адкуль прывезлі багатыя ўражанні.

Аляксандра Кабаць, Магдалена Радзіванюк, Аня Ціханюк, Давід Кагачэўскі і Давід Давідзюк успамінаюць рэпетыцыі і самое выступленне. Да іх далучаюцца жулікаватыя хлапчукі. Данік Яношук і Тамаш Бандарук дэкламуюць завучаныя на памяць ролі. Сімпатычная Уля Бандарук старанна і прыгожа чытае верш Віктара Шведа „Цешыць нас". Дзяўчынка іграла ў спектаклі ролю вядучай. Агулам, у пастаноўцы ўдзельнічала 17 дзяцей. Мае новыя сябры задаволеныя паездкай у Кляшчэлі, дзе атрымалі грашовую ўзнагароду.

— Хадзілі таксама калядаваць, — дадае настаўніца. — А за закалядаваныя грошы купілі ў сваю залу каляровы тэлевізар.

Аня Ліпская і Марта Каласоўская расказваюць пра ўдзел у конкурсе рэлігійнай паэзіі. Дзяўчаты выступілі з беларускімі рэлігійнымі вершамі. Разам з імі ў конкурсе прымалі ўдзел сяброўкі, Аня Баршчэўская і Ася Кузьміцкая. У іх рэпертуары апынуўся верш айца Уладзіміра Місіюка з Саколкі „На Святую Гару".

Навучэнцы Лены Добаш прымалі ўдзел у пластычным конкурсе пад загалоўкам „Традыцыі Нараджэння Гасподняга", дзе Кася Карнілюк і Наталля Ліпская занялі першае месца.

Неўзабаве вучні ПШ н-р 5 збіраюцца паломнічаць у Жыровічы.

— Настаўнік рэлігіі павінен узбуджаць цікавасць да мовы продкаў, да традыцыі, спадчыны, — кажа спадарыня Добаш. — Лягчэй тады адшукаць сваё месца ў жыцці, нават калі ты ў моры іншаверцаў.

У ПШ н-р 5, на тысячу дзвесце вучняў толькі сотня ходзіць на праваслаўную рэлігію.

**ЗОРКА**

*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*

## *Дарагая Зорка!*

Я хачу расказаць Табе пра нашу пабыўку ў Гданьску. Вясной мінулага года вучні нашага класа з настаўніцай польскай мовы ездзілі на экскурсію.

Першага дня мы былі ў Грунвальдзе. Вечарам разам гулялі ў гасцініцы.

Другога дня наведалі Марыяцкі касцёл ды паслухалі арганаў у Аліве.

Трэцяга дня мы плавалі караблём на Гэль. Былі таксама ў Гданьскім акварыуме. Бачылі там такія прыгожыя рыбы!

Чацвёртага дня пайшлі мы ў Лясную оперу і на Вестэрплятэ. Пабывалі таксама на моле ў Сопаце.

Пятага дня мы ад'язджалі дадому. Па дарозе заехалі яшчэ ў Мальбарк, дзе аглядалі крыжацкі замак.

У гэтым школьным годзе я хацеў бы паехаць і ў горы.

**Дарэк ЛЯЎЧУК,**
**VIII кл. ПШ у Новым Корніне**

## *Зязюля*

Пэўна, вы вясною чулі,
Як на дрэве, на суку
Кліча на ўвесь лес зязюля:
— Ку-ку! Ку-ку!
Мне расказвала бабуля,
Хлапчуку яшчэ малому,
Што на ўсё жыццё зязюля
Адцуралася ад дому.
Родных дзетак не гадуе,
А калі знясе яечка,
Возьме ў дзюбу і цікуе —
Каму ўкінуць у гняздзечка.
Не люблю я гэтай птушкі,
Што малых не хоча гушкаць,
Ні спяваць ім калыханкі,
Ні вадзіць на пагулянкі,
І ні ў ладкі з імі пляскаць,
Ні расказваць байкі-казкі.

**Васіль ВІТКА**

# Развітанне са школай




Дарак Кураш, вучань Пачатковай школы ў Ласінцы намаляваў сваю старэнькую школу. Малюнак адлюстроўвае цікавае беларускае дойлідства... і наводзіць добрыя ўспаміны, рэфлексіі.

Ці любім сваю школу?

Найчасцей не задумоўваемся над гэтым пытаннем. Усё ж такі гады праведзеныя ў школе, сябры, школьныя парты, настаўнікі астаюцца ў нашай памяці назаўсёды.

Лёс ласінскай школы даволі складаны. Тут, як і ў многіх вёсках, паменшылася колькасць навучэнцаў. Зараз закрываюцца многія школы. Такой падзеі сударожнічае хвалянне, нярэдка слёзы. Хто ведае, які лёс сустрэне апусцелую школу. Наладзяць там бар для моладзі з disco polo, карчму ці Дом старога кавалера? А, можа, праглыне яе пажар, што часта, на жаль, сустракаем на Беласточчыне. Прыгадаць бы ласінскія „Лісічкі". Такія цудоўныя калектывы не нараджаюцца ў прасторных, выгодных будынках гарадскіх школ.

**З-ка**



*Магда ДУДЗІЧ, салістка ласінскіх „Лісічак". Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА*

# Зязюля і Кук

У птушак быў свой цар — Кук. Лятаў ён па лесе, разганяў ваўкоў і лісіц, змей — усіх, хто нападаў на птушынае царства. Аднойчы Кук не вярнуўся ў сваё гняздо. Зажурыліся ўсе лясныя птушкі: „Хто ж нас цяпер абароніць?" Сталі раіцца. Што рабіць? Трэба ісці шукаць свайго заступніка. А хто пойдзе? У кожнага — справа: той гняздо ўе, той яечкі наседжвае, той дзяцей гадуе; адзін — стары, другі — малы... Рашылі яны адправіць зязюлю — у яе дзяцей няма і гнязда няма. Спалохалася зязюля, што трэба ісці ў вялікую дарогу, і знесла яечка.

— Куды ж я яго дзену? — гаворыць зязюля.

— Пакладзі сваё яечка ў любое гняздо! — адказалі ёй птушкі.

— А хто ж яго будзе выседжваць?

— Каму пакладзеш, той і глядзець будзе!

— Хто будзе сваіх гадаваць, той і тваё дагледзіць.

I паляцела зязюля шукаць Кука. Праляціць трохі, сядзе на галінку і кліча:

— Ку-ку!

Праляціць — зноў кліча.

*(З беларускай міфалогіі)*

**„Жывая кніга прыроды"**

# Любчыны прыгоды

*(амаль дзённік)*

**Хто ў летнім садзе жыве (1)**

З дзіцячага садочка татка з Любкай праз Марсава поле вяртаюцца. Па лужынах разам паскачуць, калі дождж, па сене пагоцкаюцца, калі газоны скосяць ды копкі маленькія складуць, лісточкаў жмут назбіраюць, калі восень надыдзе.

Неяк падняла Любка дубовы лісток і кажа:

— Глянь, татка, як крылца!

Зірнуў татка — і праўда: маленькае крылца анёлава, толькі не празрыстае, а жоўтае.

— А во гэта, — яны якраз вярбу срабрыстую абміналі, — як вушы.

— А чые? — цікавіцца татка.

— Кацячыя, — сур'ёзна адказвае Любка. — Бачыш, якія востранькія! — заціснула ў далоньку два лісточкі, дык яны сапраўды як вушкі.

А як пяройдуць наўскасяк Марсава поле — не было таго, каб каля Лебядзінай канаўкі не спыніліся! I, калі хлеб у кішэньцы мелі, качанят пакормяць альбо проста так за імі паназіраюць.

А тады ўжо — як здаволяцца — праз масток ды паўз Летні сад. А побач — Нява плёхаецца.

А Любка ідзе і пытаецца:

— Тата, а мы з табой пад гэтым дрэвам хаваліся, калі навальніца вялікая была?

Зойдуць праз варотцы ў Летні сад, і татка яшчэ здалёк паказвае:

— Не, вунь пад тым. Не даехалі мы тады да самых варот. Не пусціў нас дождж.

— I ты мяне тут хаваў?

— Ага! — кажа татка.

А было так, што Любка тады яшчэ зусім маленькай была — у каляскі яе вазілі. Каталіся яны гэтак з таткам па Летнім садзе, аж на той бок заехалі, дзе азярцо невялічкае — сажалка па-беларуску, — але ж і не сажалка — бруду няма, беражкі роўненькія, сеткай драцянай абнесены, ды і вада чысцюткая — праз падземныя трубы керамічныя з Лебядзінай канаўкай — а, значыцца, і з Нявой — злучана, — хіба ж гэта сажалка?! Возера, скажам, толькі маленькае, і цэлае лета ў ім лебедзі плаваюць, да самой восені — да маразоў.

Дык вось, заехалі яны аж да гэтай сажалкі, а тут раптам вецер такі падняўся — пылу нагнаў, што хоць вочы заплюшчвай, — і неба ўмомант пацямнела. Бачыць татка — кепскія справы! Няйначай дождж лупане! Трэба дамоў!

*(працяг будзе)*

**Анатоль КІРВЕЛЬ**

## Анекдоты

Суддзя пытаецца ў падсуднага:

— Вы лічыце сябе вінаватым у крадзяжы авечкі?

Падсудны адказвае:

— Не. Я проста хацеў выратаваць авечку ад немінучай смерці, бо гаспадар збіраўся яе зарэзаць.

* * *

Паслухайце, бармен, чаму вы ніколі не даліваеце бакалы?

— Прабачце, але я зусім дрэнна бачу.

— Чаму ж вы, у такім выпадку, іх ніколі не пераліваеце?

— Вы што думаеце, я зусім невідушчы?

* * *

— Магу вас запэўніць, што са сваёй хваробай вы спакойна пражывяце да 80 гадоў!

— Доктар, няўжо маё здароўе пагоршылася? У мінулы раз вы запэўнівалі, што я дажыву да 100 гадоў...

**„Вожык", н-р 1/99**

## Польска-беларуская крыжаванка н-р 18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Minus ↓ | | Uderzenie<br>Niemoc ↓ | ↱ | ↓ | ↓ | Hałas<br>Żałoba ↓ | |
| Minerał ↳ | | Nuda ↓ | | Łąka<br>Rana ↓ | ↱ | | | |
| | | | | | | | Moc ↓ | |
| Numer →<br>Barak ↳ | | | | | | Chińskie imię ↓ | | |
| | | | | | Dusza<br>Czoło → | | | |
| Soczewica → | | | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 14:** Памылка, мама, нота, равок, Хакас. Лам, манах, вымова, латок, Ака, зад.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Паўліна Савіцкая**, **Уршуля Ляўчук**, **Уршуля Гегель** з Гарадка, **Віялета Ляшчынская**, **Іаанна Стоцкая** з Нарвы, **Пётр Янкоўскі** і **Анджэліка Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага. **Віншуем!**



*Дзеці з Кляшчэль.* *Фота Ганны КАНДРАЦЮК*

# Беларускае асветнае таварыства

Аб Беларускім асветным таварыстве даўно ўжо думалі бацькі, якія аддалі сваіх дзяцей у школу нумар 11, дзе яны маюць магчымасць вывучаць беларускую мову. Адразу ўзнікла думка, каб праводзіць мерапрыемствы, супольныя для ўсіх дзетак, што вывучаюць беларускую мову — і са школы нумар 4, і дашкольнікаў.

У часе бацькоўскага сходу 3 красавіка гэтага года, які арганізавала Яўгенія Мірановіч і на якім прысутнічала 20 чалавек, было вырашана стварыць Беларускае асветнае таварыства.

Бацькі хацелі б пашырыць праграму навучання: каб іх дзеткі не толькі навучыліся ў школе пісаць і чытаць па-беларуску, але і пазнаёміліся б, па меры магчымасцей, з беларускай культурай і гісторыяй. Дзеля гэтага меркавалі прыцягнуць да супрацоўніцтва цікавых людзей з беларускага асяроддзя, якія ахвотна ўнеслі б свой уклад у адукацыю беларускіх дзетак.

— Якія галоўныя заданні ставіць перад сабой гэта таварыства? — пытаюся ў старшыні яго ўправы праф. Антона Мірановіча.

— Перш за ўсё мы хочам арганізаваць адкрытыя асветныя мерапрыемствы, такія як канцэрты, паўкалоніі (гарадскія лагеры), вандроўкі па ваколіцах Беластока і знаёмства з помнікамі беларускай культуры і беларускімі дзеячамі.

У школе нумар 11 мы ўжо арганізоўвалі канцэрты „Прымакоў", Генадзя Шэмета з „Лідэра" і іншых беластоцкіх калектываў. Дзеці падрыхтоўвалі калядныя песні, развучвалі беларускія танцы, вершы для дзяцей. Так што некаторыя дасягненні ў нас ужо ёсць.

Мы звярнуліся да ўлад горада з просьбай дапамагчы нам рэалізаваць нашы планы. Улады згадзіліся і далі грошы на ўтрыманне настаўніцы беларускай мовы і мастацкага кіраўніка, які вядзе з дзецьмі заняткі па музыцы і танцах.

У гутарцы праф. Антон Мірановіч асабліва падкрэсліве вялікае заангажаванне бацькоў школьнікаў-малалетак. Яны, гаворыць ён, былі не толькі стваральнікамі беларускага асветнага таварыства, але ініцыявалі розныя мерапрыемствы.

Члены ўправы гэтага таварыства: Надзея Хмялеўская, Міраслаў Рудчык, Яўген Пятэльскі, Яўген Альховік, Міхась Стэльмашук, Яўгенія Пятрышык, Ірэна Максімюк і Пятро Юшчук (намеснік старшыні).

Планаў у членаў таварыства шмат. У бліжэйшы час яны збіраюцца рэалізаваць праграму: „Беласток — мой горад". У рамках яе ў ліпені будуць арганізаваны гарадскія лагеры для ўсіх жадаючых вучняў. Дзеці будуць у гэты час знаёміцца са сваім горадам і яго ваколіцамі, наведваць культурныя ўстановы. Возьмуць яны таксама ўдзел у беларускіх мерапрыемствах. Будзе таксама арганізаваны конкурс малюнкаў, а таксама вандроўкі ў Супрасль і Белавежу. Плануецца сустрэча з тутэйшымі беларускімі мастакамі.

План мерапрыемстваў прадбачвае таксама вогнішча для дзяцей і бацькоў з той мэтай, каб інтэграваць цэлыя сем'і. Да гэтага арганізатары плануюць развучыць з дзецьмі беларускія народныя песні, з якімі можна было б выступіць на вогнішчы.

Летам дзеці будуць карыстацца спартыўнымі аб'ектамі. Перш за ўсё яны будуць вучыцца плаваць. Ужо дамовіліся наконт басейна па вул. Мазавецкай. Хлопцы будуць гуляць у футбол.

Калі прыйдзе восень, таварыства будзе арганізоўваць вечарыны для дзяцей, на якія будуць запрашацца таксама дзеці з польскага асяроддзя, каб і яны пазнаёміліся з беларускай культурай.

Ужо цяпер таварыства стараецца павялічыць сваім вучням колькасць гадзін спеву і танцаў. Пакуль што на гэта прызначана ўсяго адна гадзіна ў тыдзень, а на беларускую мову — дзве гадзіны.

Ці не замала ў школе беларускай мовы дзеля таго, каб дзеці добра яе засвоілі? Калі будзе больш ахвотных, сцвярджае старшыня БАТ, будуць дадатковыя грошы з гарадскога бюджэта і тады можна будзе павялічыць колькасць гадзін.

Няма патрэбы пытацца, якое значэнне для дзетак мае вывучэнне беларускай мовы. Дзеці пазбываюцца тут усялякіх комплексаў. Яны ганарацца, што могуць вывучаць родную мову, а іх бацькі цяпер па-сапраўднаму ацанілі, якое значэнне мае кірылічны алфавіт.

Амаль усе дзеці дзейнічаюць у розных царкоўных і грамадскіх установах, дзяўчаткі співаюць у царкоўных хорах, хлопцы прыслужваюць у час набажэнства. Пазнаёміўшыся з кірыліцай, дзеці нават пачынаюць чытаць па-царкоўнаславянску.

Члены Беларускага асветнага таварыства гэта бацькі дзетак, што вывучаюць беларускую мову. Але гэта таварыства адкрытае — і кожны, хто хацеў бы спрыяць працэсу навучання беларускай мовы, можа ў гэта таварыства запісацца.

Зрабіць гэта можна ў старшыні БАТа праф. Антона Мірановіча (тэлефон: 6761560).

**Ада Чачуга**

# Алімпіяда ў Брэсце

Рэспубліканская алімпіяда школьнікаў па беларускай мове праводзіцца ў Беларусі ў розных абласных гарадах. У гэтым годзе праходзіла яна з 22 па 26 сакавіка ў Брэсце. Традыцыйна ўжо прымалі ў ёй удзел вучні Гайнаўскага (Аня Садоўская і Агнешка Галімская) і Бельскага (Люцына Данілюк і Івона Сельвясюк) белліцэяў.

Праграма алімпіяды не мянялася ўжо гадамі, таму і сёлета вучні рыхтаваліся ў галоўным да праверкі практычнага ведання мовы і граматыкі. Залежна ад узросту ўсе ўдзельнікі падзелены былі на тры групы, у якіх пісалі дыктоўкі, водгукі на мастацкія творы, выконвалі практыкаванні па граматыцы і вусна адказвалі на пытанні. Спаборніцтва моладзі адбывалася амаль тры дні, а два дні вучні прысутнічалі ва ўрачыстых канцэртах у пачатку і канцы мерапрыемства.



*Аня Садоўская з Гайнаўскага белліцэя*

— Арганізацыя алімпіяды была добрая, дакладна расплананая і відаць было сапраўдную апеку, — кажа настаўнік беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя Янка Карчэўскі, які апекаваўся ліцэістамі. — Апрача конкурсных змаганняў пабывалі мы ў тэатры, сустрэліся з мясцовымі палякамі ў Польскім клубе. Відаць была там вялікая дапамога польскіх і беларускіх улад у абсталяванні клуба. У Брэсце працуе, фінансаваная беларускай дзяржавай, шасцігадовая школа, дзе навучанне амаль усіх прадметаў адбываецца на польскай мове. Калі пыталіся мы пра набор у польскія вышэйшыя ўстановы даведаліся, што неабходны і веды, і экзамены, але абавязкова трэба даказаць свае польскія карані. Што тычыцца рэчаіснасці ў Беларусі, дык настаўнікаў беларускай мовы хвалявалі абмежаванні ў навучанні роднай мове, а і вучні, якія прыехалі на алімпіяду, найчасцей размаўлялі між сабой па-руску.

Паколькі ў час урокаў беларускай мовы настаўнікі Гайнаўскага і Бельскага белліцэяў больш увагі адводзяць літаратуры, не дабіліся нашыя ліцэісты перамогі ў пісьмовых конкурсах па граматыцы і мове. Аднак вучаніца другога класа Гайнаўскага белліцэя Аня Садоўская перамагла ў час вуснага адказу і атрымала за гэтае выказванне пахвальны водзыў.

— Адказвала я на тэму „Матчына мова, матчына ласка". Цяжка было ў час лінгвістычнага конкурсу, дзе трэба было выкарыстоўваць многа тэорыі і энцыклапедычных ведаў, — кажа Аня Садоўская. — Напэўна застануцца прыемныя ўражанні, сяброўства і незабыўныя ўспаміны. Хацела б я паехаць яшчэ і далей, у глыб Беларусі, каб пабачыць, як там жывуць нашы суродзічы.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

# Вытканае з імглы

У галерэі „Obok" Белавежскага асяродка культуры з 6 красавіка па 30 мая г.г. можна глядзець выстаўку белавежскіх гафтаў, карунак і дэкарацыйнай тканіны, азагалоўленую „Спатканне з імглой".

На выстаўцы паказаны 100 прац з Белавежы і навакольных вёсак.

— Даўней дэкарацыйная тканіна, гафты і карункі ўпрыгожвалі нашыя дамы. Можна было ўбачыць іх на ручніках завешаных у святых кутках, былі на абрусах, парчах, сурвэтках і пакрывалах, якія найчасцей засцілалі ў святочны перыяд. Упрыгожвалі таксама мужчынскую і жаночую вопратку, — пачынае расказ куратар выстаўкі Эва Мароз-Кэчыньская. — Калі я рыхтавала выстаўку, наведвала не толькі жанчын у Белавежы, але была і ў Падалянах, Тэрамісках, Пагарэльцах, Будах. На падставе сабраных экспанатаў відаць, што беларускія вырабы часта з'яўляюцца невядомымі ў суседніх рэгіёнах Польшчы, дзе не карысталіся ні вышыванымі ўручную падушкамі, ні ўпрыгожванымі пакрываламі. Палякі не ведаюць таксама, што гэта святы куток з іконаю і вышываным ручніком. Нават у польскім слоўніку няма слова вышываны, а беларускія словы вышываны і гафтаваны трэба замяніць адным словам „haftowany".



*Эва Мароз-Кэчыньская ў святым кутку.*

Найстарэйшымі экспанатамі на выстаўцы з'яўляюцца шарсцяное пакрывала з канца XIX стагоддзя, якое выканала бабуля Аляксандры Клімец з Белавежы, клятчастыя фрагменты тканіны з XIX стагоддзя і ручнікі, якія паўсталі ў пачатку XX стагоддзя. У святым кутку, асобна выдзеленым на выстаўцы, іконы сем'яў Марозаў з Новаберазова і Мінюкоў з Белавежы, гафтаваныя і вышываныя ручнікі, на якіх відаць розныя геаметрычныя ўзоры і кветкі. Сярод іх вылучаецца ручнік Антаніны Павільч з Белавежы, які выкананы ў міжваенны перыяд. Самымі старымі на выстаўцы ёсць карункі Аляксандры Клімец і Марыі Масайлы з Белавежы. Побач двухаснавовы дыван і абрус з гафтамі таледа, якіх выкананне патрабуе вялікай умеласці, цярплівасці і многа часу. Можна сказаць, што вытканы яны з імглы. На сценах вісяць таксама і здымкі, на якіх відаць святочную вопратку белавежцаў з пачатку XX ст.

— Рыхтуючы выстаўку, хацела я, каб прыходзілі да нас не толькі турысты, але і мясцовыя людзі, таму побач вырабаў стогадовай даўнасці павесіла я сучасныя парчы, выкананыя нашымі жанчынамі паводле ўзораў з заходніх журналаў, — паказвае тыя экспанаты этнограф Эва Мароз-Кэчыньская. — Сутыкненне новага і старога таксама стварае непаўторную эстэтычную прыгажосць.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

PS. Магчыма, што гэта апошняя прафесійна падрыхтаваная этнаграфічная выстаўка ў Белавежскім асяродку культуры. У БАК праінфармавалі, што Эва Мароз-Кэчыньская, адзіны спецыяліст па этнаграфіі, будзе звольнена з працы па эканамічных прычынах.

# Кветкі, пчолы і камп'ютэр

Найбольш карыснымі насякомымі як для кветак, так і для людзей з'яўляюцца меданосныя пчолы. Хаця кветкі захапляюць нас сваімі колерамі, пахам і стройнасцю, аднак уся прыгажосць кветак прызначана натурай для пчол, якія садзейнічаюць іхнаму працэсу размножвання. Гэта насякомыя — пчолы, матылі, мухі — пераносяць пылок з адной кветкі на другую, выконваючы такім чынам па-майстэрску прыдуманы маці-натурай план. Таму кветкі, якім трэба прывабліваць насякомых, вылучаюцца колерамі і пахам, а тыя, якія апыляюцца ветрам, не меданосяць і яны звычайна зялёнага колеру, не пахнуць.

Пчолы неабходныя ў сельскай гаспадарцы і агародніцтве. Чалавек выкарыстоўваў гэтых перапончатакрылых насякомых ужо 9-10 тысяч гадоў таму. Спачатку рабаваў ён мёд і воск з пчаліных гнёздаў, якія размяшчаліся ў дуплах старых дрэў. З часам дзікае пчалярства замянілася бортніцтвам і калодным пчалярствам, а тое ў мінулым стагоддзі — рамачным.

Пчаліная сям'я — трывалая і вялікая: вясною і ўвосень мае 15-20, а летам 60-80 тысяч пчол. Складаецца з плоднай самкі (маткі або „царыцы"), дзесяткаў тысяч рабочых пчол (недаразвітых самак) і некалькіх соцень трутняў (самцоў). Матка адкладвае да трох тысяч яек за суткі на працягу 2-3 гадоў. Ранняй вясною рабочыя пчолы масава вылятаюць за кормам.

Самы радасны момант у пчалярстве — здабыча мёду. У добрым годзе можна некалькі разоў падбіраць мёд, які выпрацоўваецца пчоламі пераважна з нектару кветак. Адрозніваюць два тыпы мёду: кветачны (нектарны) і падзевы (з падзі — салодкай густой вадкасці, якую вылучаюць тлі, чарвяцы і іншыя насякомыя і з мядзвянай расы — цукрыстай вадкасці, што выступае на лісці, сцёблах, парастках і кары раслін). Мёд для чалавека — адзін з каштоўнейшых харчовых прадуктаў з лекавымі ўласцівасцямі. Ужо здаўна народная медыцына рэкамендавала прымяняць яго пры язвах страўніка і дванаццаціперснай кішкі, пры нервовых, лёгачных, сардэчных і іншых хваробах.

**Пчала — мініяцюрны цуд**

Аказваецца, што звычайная меданосная пчала больш інтэлігентная за наймагутнейшы камп'ютэр і можа яна быць узорам мініяцюрызацыі. Самыя лепшыя камп'ютэры свету перапрацоўваюць 16 мільярдаў аперацый у секунду, калі пчала здольна зрабіць за гэты час 10 більёнаў аперацый. Прытым скарыстоўвае яна менш энергіі, бо толькі 10 мікраватаў (камп'ютэрам трэба сотні мільёнаў разоў больш энергіі).

Пчолы ў адрозненні ад камп'ютэраў распазнаюць колеры, пахі, лётаюць, ходзяць, захоўваюць раўнавагу. Умеюць далёка паляцець у пошуках нектару і вярнуцца назад ды растлумачыць дарогу сваім сяброўкам. Яны выдатныя хімікі, паколькі да нектару дадаюць адпаведныя энзімы, каб атрымаўся мёд. Выпрацоўваюць яны воск, для будовы і рамонту сотаў, а сваім маладым рыхтуюць адпаведны корм — матачнае малачко і пяргу. Умеюць таксама бараніць свой вулей — уваход вартуюць ахоўніцы, якія праганяюць няпрошаных гасцей.

Пчолы — руплівыя гаспадыні, якія рэгулярна выкідаюць з вулея смецце і розныя адпадкі. Дбаюць таксама пра кандыцыяніраванне паветра ў вулеі — зімой абаграваюцца збітыя ў кучу, а летам навяваюць усярэдзіну свежае паветра і распырскваюць ваду. Настолькі яны здагадлівыя, што калі ў вулеі робіцца цесна, частка пчол адыходзіць. Пры раенні пчолы-разведчыцы знаходзяць новае жыллё, і па іх сігналу частка маладых пчол з маткай, якая далучаецца да рою, імкліва пакідае вулей і адлятае на іншае месца.

* * *

Маленькія пчолы робяць многа карысных спраў без дапамогі і кіраўніцтва звонку. Дзейнічаюць самастойна. Тым часам суперкамп'ютэры патрабуюць калектываў праграмістаў, інжынераў і тэхнікаў. Пчолы — сапраўды мініяцюрны цуд!

**Міхал Мінцэвіч**

## Зубры на эміграцыі

Белавежскія зубры ў Пшчынскую зямлю трапілі ў 1865 годзе. Тады князь Ян Генрык II Гохберг абмяняў з расійскім царом Аляксандрам II дваццаць сваіх аленяў на чатыры зубры. Дзякуючы гэтай здзелцы тварыўся там зубрагадавальнік, які пазней выратаваў гэты від пушчанскай жывёлы.

У 1919 г., калі апошнія зубры, якія жылі на волі, былі зніштожаны ў выніку паляванняў, пшчынскі зубрыны статак налічваў 42 штукі. І менавіта яны далі пачатак аднаўленню прыроднай папуляцыі зуброў у Белавежскай пушчы.

Другі раз пшчынскія зубры завозіліся ў Белавежскую пушчу пасля II сусветнай вайны. Калі б не яны, не было б сёння прыгожага статка, які свабодна бушуе па пушчанскіх нетрах. Гэта з гадавальніка ў Янкавіцах выводзіліся зубры, якія аднавілі белавежскі статак пасля апошняй вайны.

У Парыжы турысту абавязкова трэба пабачыць Эйфелеву вежу, а ў Пшчыне — зубра. У гэтым горадзе па вуліцы Жорскай стаіць вялікіх памераў скульптура зубра. Побач гэтага помніка, на 10 гектарах ствараецца паказны зубрагадавальнік. Пшчынскія зубры ўрэшце выйдуць з укрыцця і пакажуцца турыстам.

У Белавежы турысты здаўна могуць глядзець зуброў. Няма толькі зубрынага помніка. Калі б такі ўзвесці ў Белавежы, быў бы ён чарговым турыстычным атракцыёнам.

**Славамір Кулік**

<u>Мінчане — на вядучых месцах</u>

# „Залатыя туфелькі"

На працягу двух дзён 17-18 красавіка праходзіў у Беластоку Міжнародны турнір бальнага танца „Залатыя туфелькі".

Першы такі турнір адбыўся роўна 23 гады таму, а яго арганізатарам быў ад пачатку і да сённяшняга дня клуб „Рытм".

Сёлета ў турніры ўзяло ўдзел шмат пар не толькі з Беластока і Падляшскага ваяводства, але і з цэлай Польшчы: перш за ўсё з Варшавы, Любліна, Эльблонга, Гдыні, Вроцлава і іншых гарадоў. З Беларусі выступіла 8 пар, 4 пары — з Літвы, 3 пары — з Эстоніі, 4 пары — з Германіі.

Пары з Мінска прадстаўлялі тамашні клуб „Піруэт", які вядуць Міхаіл і Таццяна Паўлінавы. Супрацоўніцтва беластоцкага клуба „Рытм" з мінскім клубам бальнага танца „Піруэт" пачалося ў 80-х гадах. У папярэднія гады пары з Беластока выступалі ў Мінску. У мінулым годзе, у кастрычніку выступалі таксама ў Каўнасе, старой літоўскай сталіцы.

У сёлетнім турніры „Залатыя туфелькі" беларуская пара **Дзяніс Новікаў і Таццяна Ламака** заняла першае месца ў стандартных танцах у групе 14-15 гадоў па класу „C"; пара **Аляксандр Беганові і Ксеня Сідарэнка** заняла першае месца ў стандартных танцах у групе вышэй 15 гадоў па класу „C"; **Аляксандр Столяраў і Анна Наймушына** ў лацінаамерыканскіх танцах заняла першае месца па класу „C" у групе вышэй 15 гадоў, а пара **Сяргей Каменка і Вольга Столяр** — III месца па класу „A" у гэтых жа танцах.

Што датычыць іншых мінскіх пар, дык і яны ўсе занялі добрыя месцы.

Турнір „Залатыя туфелькі", як заўсёды, прыцягнуў найлепшых танцораў. Не кожны адважыцца браць у ім удзел. Так што відовішча было цудоўнае.

Выступіла таксама група сеньёраў (вышэй 35 гадоў), сярод якіх найбольш было пар з Германіі. Былі аднак і літоўскія пары, і пара з Гданьска.

Галоўным арганізатарам турніра быў дырэктар Беластоцкага асяродка танца і трэнер клуба „Рытм" **Мікалай Пажарскі**, зрэшты, заснавальнік гэтага клуба.

Менавіта ён вышкаліў амаль усіх сённяшніх трэнераў беластоцкіх, ломжынскіх і сувальскіх танцавальных клубаў. Праз клуб „Рытм" прайшло некалькі тысяч дарослых і дзяцей, якія навучыліся тут танцаваць, а многія з іх звязалі з ім сваю прафесійную дзейнасць.

Клуб „Рытм" займае вядучую пазіцыю сярод сямі працуючых сёння ў Беластоку клубаў танца (апрача яго, дзейнічаюць клубы: „Кадрыль", „Анімуш", „Ціп-топ", „Артэля", „Вясёлка", „Фенікс"). Яго члены здабываюць першыя месцы на турнірах у Польшчы. Два разы выступалі ў Сопаце на турніры „Polish open" і восем разоў у Германіі (Манхейм, на вельмі прэстыжным турніры „Germany open") і там таксама займалі высокія месцы.

Вось і ў сёлетнім турніры „Залатыя туфелькі" пары з клуба „Рытм" заваявалі пяць кубкаў, занялі два другія месцы і два — трэція.

Наогул турнір уражваў не толькі мастацкім узроўнем, але і сваёй упарадкаванасцю.

— Я хачу даваць прыклад трэнерам, — сказаў Мікалай Пажарскі, — каб яны вучыліся, як трэба рабіць турніры. Я бываў на Захадзе і многа там бачыў. Гэты турнір мы вялі блокамі. Кожная група (паводле ўзросту і класа) танцуе аж да фіналу, атрымлівае ўзнагароды — і толькі тады на паркет уваходзіць наступная група. Каб дзеці не сядзелі, стомленыя, адтанцаваўшы сваё, аж да позняга вечара, чакаючы абвяшчэння вынікаў і цырымоніі ўручэння ўзнагарод.

Найлепшыя пары (клас „B", „A" і „S") мы пакідаем на вечар, каб ахвотныя паглядзець танец у іх выкананні не мусілі сядзець цэлы дзень, а прыходзілі к вечару.

Сёлета на турніры было 17 суддзяў (з Польшчы, Беларусі, Літвы, Эстоніі і Германіі). Кожную групу ацэньвала па 7 суддзяў, а іншыя ў той час маглі адпачыць ці нешта перакусіць.

Пытаюся ў Мікалая Пажарскага, што, на яго думку, дае моладзі танец.

— Я вельмі шаную дзяцей, — адказаў мне ён, — якія адносяцца да танца сур'ёзна, ходзяць сістэматычна на заняткі, хочуць працаваць. Танец дазваляе ім культурна правесці час, без наркотыкаў і іншых спакус. Танец моладзі вельмі патрэбны. Ён вучыць уражлівасці, робіць іх лепшымі, а іх душы прыгажэйшымі.

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*



*Аляксандр Беганові і Ксеня Сідарэнка з Мінска занялі першае месца ў класе „C" (катэгорыя вышэй 15 гадоў, стандартныя танцы).*



*Пётр Секула і Анна Протас з беластоцкага клуба „Рытм" занялі першае месца ў класе „A" (лацінаамерыканскія танцы).*

# Юр’ева раса

— Заўтра Юр’я, — сказаў за снеданнем дзед, які нягледзячы на сталыя гады і здароўе, усё лічыўся гаспадаром. — Ты, Аляксей, кабылу на начлег павядзеш, каб ваўкі ці іншае звяр’ё потым на яе зубоў не шчырылі. Праўда яно ці няпраўда, але мой татуль і іх татуль так рабілі і не пашкодзіла. Нездарма ж Юрыя заступнікам жывёлы і гаспадароў называюць.

Паснедаўшы, дзед перахрысціўся, падняўся на дыбачкі і выняў з-за абразоў абложаны газетай сшытак. Раскрыў, доўга ўзіраўся ў запісаныя старонкі, нешта мармытаў сам сабе і нарэшце паслініў хімічны аловак ды запісаў: „Юр’я, 23-га красавіка, па новым стылі 6 мая. Пагода”.

Так, як і па многіх святах, так і па Юр’і прадбачвалі надвор’е і стараліся дапасаваць да яго свае гаспадарчыя справы, каб мець як найбагацейшы ўраджай і найменшыя страты. Нездарма ж засталіся розныя прыказкі і прымаўкі, якія былі селяніну свайго роду кодэксам, перасцярогамі-парадамі. І так: „Юр’ева раса, не трэба каню аўса”, „Юр’е з расою, Мікола з сяўбою”, „Юр’е з цяплом, Мікола з кармом”, „Як на Юрыя пагода, то на грэчку ўрода”, „Калі на Юрыя мароз, то сей на балоце авёс”, „Як дождж на Юр’я, то будзе хлеб і ў дурня”, „Калі прыйдзе Юры, не ўгледзіш у жыце і куры”. І гэтак далей.

Дзед дакладна запісваў надвор’е і ніякіх там прагнозаў ці аграномаў не слухаў.

— А ты на заўтра, маці, падрыхтуй усё да выгану, — прыпомніў жонцы, а сам заўзіраўся нерухома ў парог, гартаючы думкі, каб, не дай Бог, чаго не забыцца.

Але, Ольцы не трэба было прыпамінаць. Ці то першы раз ёй прыходзіцца кароў выганяць! Навыганялася і нагледзелася за свае семдзесят з лішнім гадоў. Зняла вісеўшыя ля абразоў, сёлетнія свянцоныя вербы, загарнула ў беленькую ільнянку кавалак свянцонай велікоднай пасхі, свянцоную соль і скарынку аржанога хлеба. Прынесла з сенцаў свянцоныя зёлкі, якія віселі на цвіку за вушаком. Чаго тут не было: і грымотнік ад грому, і клён, і падарожнік, і кашка, і арэшак... кожнае мае сваё значэнне.

— Здаецца, усё, — перабірала ў памяці. — А грамніцы ж яшчэ забылася, — спахапілася.

Назаўтра, чуць свет, стары ўзяў вывернуты воўнай наверх кажух і пайшоў на панадворак. Хатнія за ім. Жывёлу выганялі ўсёй сям’ёй. Дзед разаслаў кажух ля падваротні хлява. Паклаў на яго яйка і лусту хлеба, каб жывёла, выходзячы з хлява, пераступіла ўсё гэта. Тады будзе сытая, гладкая, а авечкі будуць каціцца, як яйка. Не адчыняючы ўязной брамы, згусцілі дабытак на панадворку. Дзед-гаспадар, як найстарэйшы, ішоў першы з запаленай грамніцай і свяціў вадою жывёліну. За ім ішла гаспадыня, несучы на попельным шуфліку пасыпаныя зёлкамі вугельчыкі, ад якіх ішоў прыемны дымок. Абкурвала ім жывіну. За імі ішоў пастыр. Найчасцей быў гэта нехта з хатніх падросткаў, які выганяў і прыганяў дабытак. Нёс ён свянцоную пасху, хлеб, соль і далікатна сцёбаў свянцонай вярбінай кожную жывёліну. Абыходзілі тры разы.

У Олькі дома крыху інакш. Перш чым абысці жывёлу, тройчы абыходзілі з лустай хлеба комін, прыгаворваючы: „Як печ стаіць на месцы, так каб і жывёла хадзіла на месцы”. Потым гэты хлеб давалі жывёліне. І не вербамі сцёбалі, але арэшынай, да якой былі прывязаныя свянцоныя зёлкі.

— У кожнага свае звычаі, — падумала Олька.

Нарэшце гаспадар адчыніў уязную браму. Статак, пачуўшы волю, брыкаючы, выбег на вуліцу. Старая жывёліна ведала дарогу і ішла з павагаю, надаючы парадак маладым. На падвор’і пад уязную браму, якою толькі што прайшоў дабытак, дзед паклаў замкнуты замок. Гэта засцярога, каб замкнуць ваўкам зубы, якія ў свой час часта цярэбілі статак.

— Ну, слава Богу, — сказаў дзед. — Каб толькі хаця не забыліся прагнаць статак праз руннае поле, — спахапіўся.

— Я наказвала, — адклікнула Олька.

Пастух так і зрабіў. За вёскаю пусціў дабытак у рунь. Мала таго, яшчэ кожнай карове вымя юр’евай расою пакрапіў: хай многа малака даюць і ведзьмары да іх не чапляюцца. А дома рыхтаваліся да абраду агледзін нівы, часта званага „расою”. Олька яшчэ ўчора спякла на гэтае свята каравай. Гаспадар, загарнуўшы яго ў абрус, паклаў у кошык, выплецены з бярозы, узяў свянцоную вярбовую лазу і ўсёй сям’ёй пайшлі на пасевы, пераважна жытнія, таму што хлеб — падстава жыцця чалавека. Гаспадар з караваем і вярбінаю абыходзіў свае пасевы і ля загона, ад якога пачынаў абыход, утыкаў лазу, каб збожжа расло так як тая лаза. Потым качалі каравай па руні, каб зерне з колаca так сыпалася. Клалі яго на загоне. Калі схаваўся ў свежай руні, значыць ураджай будзе добры. Прыкладалі вуха да зямлі і слухалі як расце збожжа. Вярнуўшыся дахаты, дзялілі каравай на ўсіх дамашніх і спажывалі з надзеяй добрага плёну.

— У нас было цікавей, — пачынае Олька. — У нас і моладзь, і старэйшыя ішлі вечарам. Цэлаю вёскай ішлі. Забіралі рэшткі (спецыяльна прыхаваныя) з велікоднага стала, попел, што застаўся з дроў, на якіх рыхтавалі ежу на велікодны стол. Там частаваліся, гасцяваліся. Былі і танцы пад скрыпку. А пасля пачастунку, калі дзень канчаўся, гаспадар закопваў ля свайго загона прынесеныя з сабой велікодныя рэшткі. Затым пасыпаў попелам рунь...

Гэта засцерагала пасевы ад буры, каб не вылеглі, і ад пустазелля.

Колішні Юры, як свята земляробчага календара, апякун гаспадаркі, жывёлы і пастухоў быў падменены хрысціянскім Юрыем, якога ўяўлялі як рыцара, які не ведаў страху, змагара за веру. Яго культ, як хрысціянскага святога, пачаўся з чацвёртага стагоддзя.

**Міхаль Пашкоўскі**

**У адных — лопаюць, у іншых — ападаюць!..**

# Немаленькі бізнес

Ружовaю фарбаю густа памаляваны вокны секс-шопа на цэнтральнай вуліцы Беластока, бо абражаў ён пачуцці асоб, якія праходзілі ў святочных рэлігійных шэсцях па шаноўным шляху „ад чырвонага касцёла да белага”. Не мае права і падлетак недарослы зірнуць на такую паскуду, прыдуманую дзеля грэшнай асалоды дарослымі людзьмі. Пэўна, дэгенератамі, такімі ж як... тут уставіць можна тое, што пачуеце ў аплоце маральнасці ўсяе Польшчы і нават Еўропы.

Грэшнікамі.

— Ці гэта грэх цікавіцца сексам? — задаю пытанне ў секс-шопіку менш імпазантным, чым той у цэнтры горада, стратэгічна і хітра лакалізаваным у падвале недалёка аўтавакзала і гатэля, да таго ж за дзвюма іншымі крамкамі. І добра, і ціха, і спакойна, і прыбыткова. Не заляпаюць тут табе вокнаў ахоўнікі маральнасці, не ўтаропіць вачэй ніхто ва ўваходзячага ў вароты распусты, часам румянага ад пят да вушэй, пакупніка.

Мая сяброўка *z pewną nieśmiałością* падыходзіць да навінак такога тыпу, але ў Мінску за нішто не пыталася б аб прэзерватыў! Крый Божа! А дарослая ж, не дзяўчынка. Верная свайму мужу, СНІДу не павінна баяцца. Але хоча набыць штосьці адмысловае, якраз свайму пану на дзень нараджэння і сабе на пацеху, а вось словы ёй праз вусны не праціснуцца...

— Вось такі, з вусікамі ці гузічкамі, — паказваю пальцам на пачачкі аздобленыя адпаведнымі малюнкамі. — І яшчэ адзін на прадаўжэнне працягласці акту, як тут расхвальваюць. Бачу, некаторыя з іх — шматразовыя? Гэта што — скарыстаў, памыў, высушыў і зноўку можна ўжываць? — дапытваюся, каб сяброўка адразу мела інструкцыі з кампетэнтных вуснаў самога прадаўца, які з каменным тварам пачынае інфармаваць.

— З гэтымі так, але не з „прадаўжальнікамі”. Цяпер у нас тавару невялікі выбар, усё выкуплена на 8 сакавіка, на іншыя святы... Мужчыны сваім дамам набывалі такія цацкі. І адзенне, бялізну — усё, што ўздзейнічае таксама і на іх уласнае ўяўленне.

— А як з парфумай? Бываюць духі з ферамонамі, якія прываблiваюць іншы пол. Гэта як у насякомых, пчолак, матыльбкоў розных? Найлепш усё тлумачыцца на пчолках, нават у школе...

— Вядома, чалавек — элемент прыроды. За жанчынай, якая апырскаецца такім адмысловым пахам, будзе цягнуцца табун мужчын, незалежна ад яе ўзросту, прываблівасці і іншых каштоўнасцей.

— Ну, то чагосьці такога мужчына даме свайго сэрца хіба не будзе купляць. А і сяброўка сяброўцы, нават найлепшай...

— А калі мужчына — то за ім дзеўкі — як мухі на мёд!

— А што мужчыны купляюць для свае прыемнасці? З прэзерватывам, здаецца, то гэтак так, як маржанае лізаць цераз шыбу... Бачу тут нейкія... лялькі са страснымі губамі, нейкія часткі цела, аграмадныя і ўнушальна ўздзейнічаючыя на ўяўленне, нават маё! Гэты ружовы монстр — хіба толькі бутафорыя? Ён на батарэйкі?..

— Гэта толькі бутафорыя, аздоба нашага салона. Можна такую трымаць і дома, калі каму даспадобы. А з меншых, больш зручных — якія хочаце па даўжыні і шырыні, мяккасці і цвёрдасці, гладкасці... і вібрацыі. Калі ідзе пра лялькі, ёсць і арыйкі, і мулаткі. Бландзінкі лепш „ідуць”.

— Зразумелая справа. А хто іх набывае? Хто на іх аматар? З ёю ж не пагаворыш.

— На жаль, не магу гэтага вам сказаць. Гэта мая салодкая таямніца. Пра ўзрост пакупнікоў таксама нічога не скажу.

— Ну, што вы, я ж не патрабую ў вас адрасоў! Але хто купіць гэты... слоічак гарчыцы?!

— Зараз прадэманструю.

— Вой, а гэта што такое выскачыла з-пад покрыўкі? Ружовы, вясёлы, пругкі, задзірысты, бадзёры!

— Ідэальны гаджэт на бяседны стол...

— У гасцях у цешчы! Робіць уражанне. Толькі каб цябе за такі сюрпрыз з-за стала апалонікам не прагналі і ў хату больш не пусцілі! Ці наведваюць вас тут у такіх крамах беластоцкія „ахоўніцы (і ахоўнікі) маральнасці”, славутыя на ўсю Польшчу?

— Каму цікава, можа зайсці, каму брыдка і агідна — можа перайсці на другі бок вуліцы. Камітэты, яны заўсёды дзейнічалі, розныя, у розны час. Мяне палітыка не цікавіць. Каму трэба зайсці, прыйдзе сюды. Бо гэта не распуста, па-мойму. Часам трэба цэментаваць сужонства з прычыны фізічных недамаганняў мужчыны...

— Для гэтага, здаецца, ёсць урачы ад цела і псіхікі...

— Часам хопіць парваць з рутынай. Часам трэба крышку разварушыць уяўленне, каб пабачыць, як гэта іншыя робяць. Можа хапіць і пару кропель „іспанскай мухі”...

— З той хіміяй, то я чула, што яна і шкодная...

— Усё ў збытку шкодзіць. А хопіць часам са сваімі абрыдлымі ў звычайнасці жонкай ці мужам паглядзець... інструктыўны фільмік, культурна, прыгожа накручаны.

— Ну, хіба ў вас ёсць розныя фільмы. А распаўсюджванне парнаграфіі, ведаеце...

— На гэту тэму я магу размаўляць з пастаяннымі кліентамі, дыскрэтна. Гэта як каму што падабаецца. Нам такое рэкламы не трэба. Калі хто хоча паглядзець фільм такі, то можа ў нас тутака. Зрэшты, што тут гаварыць пра секс у нас у Беластоку! Гэта сусветны бізнес. А нам цяпер, калі „рускіх” менш, даводзіцца сціпла дзейнічаць. Адно толькі цешыць — прыносім радасць тым людзям, якім яе бракуе з пэўнае прычыны. Не могуць або не маюць. Мы ім не шкодзім. А ўсё трэба трактаваць трохі з жартам. Так і напішыце, каб было вясёла і ніхто не абразіўся разам са сваёю закасцянелаю маральнасцю. А шмат хто такі ёсць, што аплёўвае гэта ўголас, а жонку сваю лупіць і трактуе як памыйную яму, а што і раз бегае ў храм замольваць грахі. Хто лічыць сябе бязгрэшным, хай у мяне, маленькага „бізнесмена ад сексу”, кіне камень.

**Паўліна Казарэз**

# Паэтычныя растопы ’99

Ваяводскі асяродак анімацыі культуры і Нараўскі асяродак культуры запрасілі 17 красавіка гг. на сустрэчу ў Нарву больш за трыццаць народных творцаў з Падляшскага ваяводства. На сустрэчы і я прачытаў свае вершы, між іншым „Ці я беларус” і іншыя з калектыўных пасляконкурсных зборнікаў. У бяседнай атмасферы, з пачастункам, аўтарам добра чыталася свае творы і дыскутавалася. Вялікае дзякуй арганізатарам! Шкада толькі, што я быў адзіным беларускім паэтам.

Пасля заканчэння сустрэчы дырэктар НАК Ірэна Шастай, каб у Нарву прыцягнуць падобныя сустрэчы і зацікавіць творцаў і журналістаў, завезла нас у нараўскі гатэль „Пад акацыяй”. Там ёсць вялікая зала, ёсць дзе і пераначаваць — ідэальнае месца на культурныя мерапрыемствы і адпачынак. Шкада, што на сустрэчу не прыйшоў ніхто з самаўрадавых улад гміны і не сказаў пару добрых слоў, каб прыцягнуць турыстаў да нас, сюды, дзе вада і паветра чыстыя.

**Мікалай Лук’янюк**

# Дакручвалі гайкі... аж парваліся

Цікавыя ўспаміны Аляксандра Харкевіча з Лешукоў, што запісаў Аляксандр Вярбіцкі п.з. „Дакручвалі гайкі" („Ніва" н-р 15), даў мне стымул кінуцца ў мінулае, калі ў адзін з восеньскіх вечароў 1952 года ў дубіцкай школе адбыўся сход, на якім прысутнічалі ўсе мясцовыя камуністы, а таксама быў госць, Дземянюк родам з Залешан, які намаўляў сялян уступаць у арганізаваны ў нас калгас. Я на тым сходзе прытаіўся ў гушчы натоўпу і помню словы таго госця, які хіба быў вялікай фігурай у партыі: „Прикрунём одну гайку — будете пищать и в колхоз ещё не пойдете; прикрунём вторую гайку — многие пойдут в колхоз, но не все; но когда прикрунём третью гайку — будет плач и рыданье и все как один пойдете в колхоз". Чамусьці агітатар гаварыў на чыстай рускай мове — відаць польскую слаба ведаў. З натоўпу пачуўся голас: „Глядзіце, каб тыя гайкі не парваліся ад натугі". Гэтак прамовіў мой бацька, а агітатар Дземянюк спытаў сваіх таварышаў за сталом: „Что это за сволочь?" А тыя мясцовыя яму шэптам: „Ціха, гэта адзін з Лярчышыных — Панфілюкоў; напэўна іх ведаеш, бо разам былі ў санацыйным падполлі, а за словам яны ў кішэню не лезуць і Валодзя (мой бацька — М. П.) таксама камуніст, але выбуховы..."

І так восенню 1952 года быў арганізаваны калгас у Дубічах-Царкоўных. Запісаліся ў яго чатырнаццаць сем'яў і скора палова з іх адпала і за гэты грэх былі ім выдзелены горшыя зямельныя ўчасткі-калёніі, бо была праведзена камасацыя зямлі па плану партыі; найлепшая зямля і лугі дасталіся прадукцыйнай спулдзельні. Мой бацька таксама не па сваёй волі запісаўся туды восенню 1953 года.

На агульным сходзе ставілася пытанне: як назваць гэты калгас? Былі розныя прапановы; мой бацька запрапанаваў назву „Дружба" („Przyjaźń") і яна была прынята. Аднак дружбы паміж аднаасобнікамі і калгаснікамі не было ніколі, адно варожасць і то лютая. Збожжа і сена калгаснікі касілі ў пагоду і плён быў добры, бо прымянялі мінеральныя ўгнаенні, а да таго ж выаралі лугі і засеялі шляхетнае травою. Аднак калгаснікі сварыліся паміж сабою, і біліся, і былі зладзейства і махлярства. І калі настаў Гамулка, калгас „Дружба" лопнуў як мыльная бурбалка.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 864. Ахвяраванні сабраныя ў Музеі ў скарбонку | 40,80 зл. |
| 4 865. Ян Зенюк (Беласток) | 50,00 зл. |
| 4 866. Валянціна Грыка (Старое-Ляўкова) | 12,00 зл. |
| 4 867. Ахвяраванні вучняў класа V „б" Пачатковай школы н-р 2 у Гайнаўцы | 20,00 зл. |
| 4 868. Ахвяраванні вучняў IV класа Пачатковай школы ў Дубінах | 30,00 зл. |
| 4 869. Канстанцін Лукашэвіч (Беласток) | 10,00 зл. |
| 4 870. Юльян Казбярук (Гайнаўка) | 30,00 зл. |
| 4 871. Міхал Голуб (Гайнаўка) | 10,00 зл. |
| 4 872. Хведар Галёнка (Варшава) | 50,00 зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: **Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 682 3016.**

# Помнік д-ру Чарнецкаму

Беларускае гістарычнае таварыства звяртаецца з просьбай аказаць фінансавую дапамогу ў пабудове намагільнага помніка беларускаму нацыянальнаму дзеячу д-ру Міколу Чарнецкаму на праваслаўных могілках у Беластоку-Выгодзе.

Асвячэнне помніка плануецца ў сотую гадавіну з дня нараджэння героя, у канцы мая бягучага года.

Мікола Чарнецкі нарадзіўся 22 мая 1899 г. у вёсцы Малыя Азяраны каля Крынак. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Карлавым універсітэце ў Празе. З той пары актыўна ўключыўся ў беларускі нацыянальны рух. Быў блізкім сябрам паэта Уладзіміра Жылкі, супрацоўнікам Тамаша Грыба, настаўнікам беларускай мовы ў беларускай гімназіі ў Клецку. У пачатку 1944 г. быў забіты польскім падполлем непадалёк Беластока.

Грашовыя ахвяраванні можна пералічваць на рахунак:

**Białoruskie Towarzystwo Historyczne PBK, S.A. w Warszawie I/O Białystok 11101154-210988-2700-1-61, „Pomnik".**



# Карысць дзеля выжывання

Калі слухаю радыёперадачы „Украінская думка" ці „Пад знакам Пагоні", асабліва карэспандэнцыі Уладзіміра Паца з Мінска ці Іаанны Немчыноўскай з Гродна, тады здаецца, што няма горшай бяды ва ўсім свеце як за ўсходняй мяжой.

Калі нашы ўлады дазволілі адкрыта гандляваць „турыстам" з усходу, на беластоцкіх базарах паявілася вельмі многа танных тавараў, напрыклад масла, сыр, каўбаса, папяросы ды гарэлка. Мая жонка на базары пры вуліцы Юравецкай купіла вялікую вязку абаранкаў толькі за 1 залатоўку. У нас у краме яны каштавалі б 5 злотых. У вёску грамадзянін СНД прывёз на аўтамашыне звычайныя фіранкі (гардзіны) па 3 злоты за 1 метр. Сапраўды, з ім нават не трэба было таргавацца, бо ў нас крышачку лепшыя папяросы каштуюць больш 3 злотых. Гарэлка ў такіх гандляроў каштуе 8-10 злотых, а гэта на 50% танней ад айчыннай гарэлкі ў магазінах. У Беларусі, пералічыўшы на нашы грошы, паўлітра гарэлкі каштуе 3 злоты. Нашыя жанчыны на базарах купляюць найтаннейшы тавар, а турысты з-за ўсходняй мяжы купляюць найпрыгажэйшыя ды даражэйшыя тавары.

Мне здаецца, што дастаткова бяды і ў былым Савецкім Саюзе, і ў нас у Польшчы. Карыстаючыся розніцай цэн чаўночнікі прывозяць да нас свае тавары і за гэта купляюць нашы, якіх няма на ўсходнім рынку. Гэта дае карысць абодвум бакам, дазваляе людзям выжыць.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Адразу кажу, што кепскі сон мне прысніўся. Але што дакладна ён абазначае, скажы, Астроне!

Прыснілася, што ў мяне выпаў зуб, без болю, без крыві, як бы проста выняў я яго. Быў ён белы, не пашкоджаны, не папсуты. Я падумаў — нічога, будзе месца на пратэз. **СЦЯПАН**

Снілася мне, што мой калега меў атрымаць нейкія грошы з установы (ці ўстановаў) на нейкую справу, але яму не далі. Я з таго сну памятаю маё пачуццё крыўды за тую несправядлівасць.

**МІРА**

Астроне! Маёй сястры прыснілася, што яна едзе ў Варшаву ў бальніцу. Зараз жа пасля гэтага яна знайшла працу. Ці магчыма, што сон прадвяшчаў гэты факт? **ГАЛІНА**

Даражэнькія! Усім адказваю. Адным блокам. Ты, Сцяпане, не хвалюйся. Занадта не будзе прычын дзеля вялікіх перажыванняў. Кепскі сон, бо кепскі (зуб выпаў, дык нехта памрэ), але цябе ён не будзе моцна датычыцца. Сам глядзі: крыві пры гэтым не было, значыць, не будзе гэта нейкі родзіч па крыві, а да таго ж той зуб выпаў зусім без болю, значыць, і жаль твой не будзе занадта вялікі, неяк усё абыдзецца. А можа вынікнуць таксама хвароба некага з блізкіх, але не кроўных. Мо нейкая аперацыя будзе, нешта выражуць, выкінуць з арганізма. А мо нават нешта ўставяць. Адкуль жа паявіліся ў цябе думкі пра пратэз?

Твой сон, Міра, трэба чытаць наадварот: калі табе прыснілася, што твой калега грошай на нейкую справу не атрымаў, дык напэўна атрымае. Дарма ты так крыўдавала. Але цябе гэта, бадай, не будзе датычыцца.

А сон тваёй сястры, Галінка, вельмі добры, бо шпіталь наогул абазначае спакой і поспех у справах. Так што яе сон мог бы прадвяшчаць добры зыход пошукаў працы. **АСТРОН**



**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1999 r. upływa 5 czerwca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— У будучым годзе ажэнішся з багатаю брунеткай, — гаворыць гадалка.

— Дзякую; заплачу табе ўдвая больш, толькі скажы мне, што я маю зрабіць з паскуднаю бландзінкай, што без граша дома сядзіць.

* * *

Гутараць два сябры:

— Штосьці ты дрэнна выглядаеш...

— Ад тыдня змагаюся з прастудаю.

— Я таксама хварэў, ды пасля раскошнай гадзіны ў пасцелі з жонкаю адышло ўсё, як рукою зняло.

— Што ты скажаш! А яна цяпер дома?

* * *

— Пабрыўся, вось, я, — кажа муж раніцаю жонцы, — і адчуваю сябе на дзесяць гадоў маладзей.

— То брыйся, калі кладзешся ў ложак.

* * *

Дэрбавую гонку выйграў зусім невядомы конь. Журналісты даведаліся, што таму каню ўжо сем гадоў.

— Чаму ж вы дагэтуль не дапускалі яго да спаборніцтва? — пытаюць уласніка.

— Бо не мог яго злавіць і прывесці на іпадром.

* * *

Муж вярнуўся ад ветэрынара і гаворыць жонцы:

— Наш бедны сабачка ўсю дарогу пішчаў, відаць, штосьці хацеў мне сказаць.

— Гэты сабака хацеў сказаць, — адказвае жонка, — што ён — не наш.

* * *

— З кім спіць мужчына на працягу свайго жыцця?

— Да пяці гадоў — з соскаю, ад пяці да дзесяці — з плюшавым мішкам, ад дзесяці да дваццаці — з мрояю, ад дваццаці да трыццаці — з жонкаю, ад трыццаці да сарака — з чужою, ад сарака да пяцідзесяці — з будзь-якою, ад пяцідзесяці да шасцідзесяці — з грэлкай, ад шасцідзесяці — з закрытаю форткай.

* * *

Сустракаюцца дзве суседкі:

— Маглі б вы купіць шторы на вокны! Вечарам усё бачу, што вы вычвараеце са сваім мужам...

— А вы павінны купіць акуляры! Тады б бачылі, што гэта зусім не мой муж.

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. гара ў Каракаруме, 8611 м., 7. сталіца Босніі і Герцагавіны, 8. у яе цаляеш, а трапляеш у карову, 9. злоўжыванне сваёй уладай, 10. пахучая чырвоная ягада, 14. прадзільніца, замененая Афінай у павука, 18. Кандрат, беларускі пісьменнік (1896—1991), 19. сталіца Турцыі, 20. заходнеславянскае племя, абадрыты, 21. упадзіна ў Егіпце.

**Вертыкальна:** 1. узнёслае малітоўнае ўслаўленне, 2. Хасэ, мексіканскі мастак (1883—1949), 3. сталіца Германіі, 4. Карлас, мексіканскі кампазітар (1899—1978), 5. Алесь, беларускі паэт (1887—1920), 6. вучнёўская сумка, 11. усходнеафрыканская дзяржава, 12. Дальмацыя і Панонія даўней, 13. Энрыке, уругвайскі пісьменнік (1900—60), 15. музычная п'еса з рэфрэнам, 16. морда, 17. порт у Іарданіі. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 12 нумара**

**Гарызантальна:** клешч, галашэнне, Малах, Ахмед, Інд, Бангкок, няслава, сто, рамка, саван, Шатыловіч, расол.

**Вертыкальна:** Гершвін, келіх, Чанша, Гільгамеш, Ермаловіч, Муаўр, дыван, ікс, дно, Тбілісі, аўтар, ствол.

Рашэнне: **Міхась Шаховіч**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

## Пра пекла і рай

За Найпрыгажэйшую Алену, якую траянскі царэвіч Парыс падсцібрыў спартанскаму цару Мянелаю, успыхнула славутая траянская вайна. Сёння не надта далёка ад Спарты зноў маем вайну, і зноў прычынай ёй жанчына. Толькі не за яе б'юцца, а дакладней гаворачы — б'юць, толькі каб як ад яе адчапіцца; як ад чарвівай рэдзькі! Бо не найпрыгажэйшая яна, толькі выпадковае супадзенне абставін прывяло яе ў фокус сусветнага зацікаўлення ў апошніх месяцах.

Арабскія шэйхі трымаюць гарэмы, якія, бывае, налічваюць і па некалькі дзесяткаў жонак аднаразова. У Еўропе такога, прынамсі афіцыйна, не практыкуецца. Афіцыйна нашы юрліўцы могуць мець па некалькі жонак, але кожную ў аддзельны перыяд, якія павінны, у адрозненне ад арабскіх нормаў, доўжыцца намнога больш ад аднае ночы. Вось на днях нямецкі міністр замежных спраў узяў сабе чацвёртую жонку, а яго начальнік, федэральны канцлер, чацвёртую ўзяў яшчэ раней. А амерыканскія актрысы і спевакі абагналі ў гэтай галіне нават нямецкіх палітыкаў.

Можа тут узнікнуць ураджанне, што ў Амерыцы ўсе толькі і разглядаюцца за новымі сунаўлежнікамі ці сунаўлежніцамі. Разглядаюцца то можа і ўсе, але, як гэта ў самым несправядлівым з грамадскіх страеў — капіталізме — бывае, не ўсе могуць здзейсніць свае летуценні пра інтымнае шчасце. Ці можна назваць шчасцем, калі жонка штодзень і штонач *долбает* мужа пра недахоп грошай ці працякаючы кран, а муж жонку — пра прыгарэлыя катлеты ці перасолены суп? І разглядаецца чалавек за такою райскаю Еваю, якая на від быццам і не чула пра грошы ці кран, а баба — за такім Адамам, які на від есць толькі яблыкі. І найчасцей абое пападаюць з агню ў полымя. А вось амерыканскі прэзідэнт пасля райскіх абнімкаў са сваёй стажоркай трапіў проста ў пекла; так яму ягоныя амерыканскія псеўдамаралісты дапяклі, што ён амаль не прагарэў. І хаця пазней іх прыпяканні пасла-белі, прэзідэнт знайшоў выкрутку каб пякельны агонь адвесці ў зусім другое, чым яго распорак, месца.

Дзеля гэтага мае ён генералаў, якія пэўна таксама маюць сваіх і жонак, і стажорак, а да таго ж ракеты, якія могуць разносіць агонь у любое месца на планеце, напрыклад у Афганістан, Судан, Сербію ці Турцыю з колішняй Трояй. Першыя два аб'екты ўжо былі выпрабаваны, а апошняга не выпадае, бо Турцыя — саюзнік, а курды — гэта шчасліўцы, якія жывуць на тэрыторыі колішняга Эдэма, а падвергнуты яны там ганенням таму, што некаторыя з іх дапускаліся тэрактаў у другіх дружбацкіх краінах. Асталася Сербія; пра тэракты тамашніх албанцаў неяк не чувалася і яны, магчыма, такія ж магутныя, як нашы тут некаторыя дэмакратычныя ці грамадска-культурныя аб'яднанні ці таварыствы. Ці ж не рай там для пекла?

Калі абнімаецца звычайная парка, пахне прыгарэлай катлетай; калі ў парцы царэвіч, канцлер або прэзідэнт, пахне цёплай крывёю.

**Адам МАНЬЯК**

<u>Фрашкі пра нашых</u>

## Ні Колі...

Ні Колі, ні Вапы
Няма на палатах.
Не мае наш Коля
У хаце спакою,
І хата ніколі
Не здаволіцца Колем.
А Вапы канапа
Сумуе па Вапу,
Бо Вапа даў храпу
У Цэнтры на капе.
Ні Колю, ні Вапу
Не ўпусцяць у хату,
Бо Вапа і Коля
Зноў рушылі ў поле!

Варта Колю
Даць патолю,
А Вапу —
атрапу,
Каб за Вапу рабіла.
Усюды Вапы хапіла б!

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Кароткі курс параноі

**Пярэкрут у пекле**

— Я да вас, спадар Вельзевул, як да апошняй інстанцыі, — корчыцца перад лысым чортам пярэкрут. — Верай і праўдай служыў на карысць нашай справы, а стаю ў чарзе бязродных касмапалітаў. Гэта мне зусім не падабаецца. Хачу стаяць між лепшымі з лепшых.

— Не ў маёй кампетэнцыі, таварыш сакратар, — суха адказаў лысы чорт і натапырыў увысь крутыя рогі. — Сігай у смалу! — гаркнуў. — Чарцей не выбіраюць.

Пярэкрут на хвіліну слупянее, потым, успомніўшы рымлян, стукае абцас аб абцас і аддае чэсць лысаму:

— Ідучыя на смерць вітаюць цябе! Рагач не ведае рымскага блазнавання, грукае касматым капытам аб бруковаку, высланую добрымі намерамі:

— Сігай! — таропіць.

— Рад старацца! — вярнуўся ў сваю стыхію пярэкрут і палез у саган. Яму заапляскала чортава чэлядзь. Вельзевул прылізаў запэцканымі лапішчамі пучок шчэцця на лысай галаве і вылупіў здзіўлена бельмы: пярэкруту і пекла — руская *баня*.

— Падкіньце жару! — просіць той. Раздаюцца бурлівыя апладысменты. Пярэкрут вынырае з ліпкага смалянога варыва і заліваецца задорыстым рогатам:

— Служу Са...Са...Сатане!

— Ты — мне?.. Ты — мне? — здзіўляецца ў бяздонным цемрыве рэха.

Назіраў

**Сідар МАКАЦЁР**

P S. Не выключана, што пярэкрут трапіў у пекла ў выніку заганнай фільтрацыі.

**Герой нашага часу**

Жыў нармальна. Сыта еў,
Пасля першай не хмялеў.
Любіў мір: Удоваль спаў,
Бліжніх жонак не чапаў,
Сваю дарма не лупіў,
За свае, пэўна, не піў.
Гонар меў. Такі ўжо род.
Шанаваў яго народ.

І гэткі герой прыкметны
Апынуўся ў апраметнай.

З-за каго? І з-за чаго?
А хто ведае яго.
Верны быў, усім служыў,
Дружбай з людзьмі даражыў...

То і ў пекле паслужу,
З сатаною падружу.